*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*




# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 3 жніўня 1990 г. № 31 (3545) ● Цана 10 кап.**







На гэтым тыдні завяршыла сваю працу першая сесія Вярхоўнага Савета БССР XII склікання. Яна доўжылася рэкордны тэрмін — два з палавінай месяцы. З 31 пытання вызначанага дэпутатамі парадку дня разгледжана 30, а звыш праграмы — яшчэ 20 першачарговых. Сесія зацвердзіла новую вярхоўную ўладу рэспублікі, сфарміравала ўрад БССР, засяродзілася на чарнобыльскай праблеме, прыняла Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі.

У дэпутатаў пачаліся канікулы. Але парламенцкая праца будзе працягвацца — у Прэзідыуме Вярхоўнага Савета, у пастаянных камісіях, на сустрэчах з выбаршчыкамі. Не будзе канікулаў і ў «Дэпутацкім клубе «ЛіМа» — напрыклад, у бліжэйшых нумарах штотыднёвіка з'явяцца інтэрв'ю З. Пазняка, У. Грыбанава, выступленні іншых парламентарыяў.

Фота А. БІРЫЛКІ і А. КЛЕШЧУКА.



## У НУМАРЫ:

# ДЭКЛАРАЦЫЯ

## Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

# АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ СУВЕРЭНІТЭЦЕ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай рэспублікі,

выяўляючы волю народа Беларускай ССР,

усведамляючы адказнасць за лёс беларускай нацыі,

пацвярджаючы павагу годнасці і правоў людзей усіх нацыянальнасцей, якія жывуць у Беларускай ССР,

сведчачы павагу да суверэнных правоў усіх народаў Саюза ССР і свету,

лічачы рэспубліку паўнапраўным і незалежным членам сусветнага супольніцтва,

дзейнічаючы ў адпаведнасці з прынцыпамі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншымі агульнапрызнанымі міжнароднаправавымі актамі,

урачыста абвяшчае поўны дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх зносінах і заяўляе аб рашучасці стварыць прававую дзяржаву.

### Артыкул 1

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — суверэнная дзяржава, якая ўсталявана на аснове ажыццяўлення беларускай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэнне, дзяржаўнасці беларускай мовы, вяршэнства народа ў вызначэнні свайго лёсу.

Неад'емныя правы Беларускай ССР як суверэннай дзяржавы рэалізуюцца ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права. Беларуская ССР ахоўвае і абараняе нацыянальную дзяржаўнасць беларускага народа.

Беларуская ССР мае свой герб, сцяг і гімн.

Любыя гвалтоўныя дзеянні супраць нацыянальнай дзяржаўнасці Беларускай ССР з боку палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў ці асоб праследуюцца па закону.

### Артыкул 2

Грамадзяне Беларускай ССР усіх нацыянальнасцей складаюць беларускі народ, які з'яўляецца носьбітам суверэнітэту і адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў рэспубліцы. Яго поўнаўладдзе рэалізуецца непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы дзяржаўнай улады.

Права выступаць ад імя ўсяго народа рэспублікі належыць выключна Вярхоўнаму Савету Беларускай ССР.

### Артыкул 3

Дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР сцвярджаецца ў імя вышэйшай мэты — свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна рэспублікі на аснове забеспячэння правоў асобы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Беларускай ССР і яе міжнароднымі абавязацельствамі.

### Артыкул 4

Грамадзянства Беларускай ССР з'яўляецца неад'емнай часткай яе суверэнітэту. Рэспубліка ахоўвае гонар, здароўе, правы і законныя інтарэсы сваіх грамадзян, забяспечвае іх сацыяльную абароненасць. Яны знаходзяцца пад яе абаронай, будучы за межамі Беларускай ССР. Рэспубліка прымае ў грамадзянства і вырашае пытанне аб выхадзе з грамадзянства.

### Артыкул 5

Зямля, яе нетры, іншыя прыродныя рэсурсы на тэрыторыі Беларускай ССР, паветраная прастора з'яўляюцца ўласнасцю беларускага народа, якому належаць выключныя правы валодання, карыстання і распараджэння імі.

Вызначэнне прававога рэжыму ўсіх відаў маёмасці адносіцца да выключнай кампетэнцыі Беларускай ССР.

Беларуская ССР мае права на сваю долю ў агульнасаюзнай маёмасці адпаведна ўкладу беларускага народа і як рэспубліка — заснавальніца Савецкага Саюза, якая была яго праваздейным суб'ектам, мае права на сваю долю ад алмазнага, валютнага фондаў і залатога запасу СССР.

Беларуская ССР утварае Нацыянальны банк, падпарадкаваны Вярхоўнаму Савету рэспублікі, стварае сваю фінансава-крэдытную сістэму, пацвярджае права ўласнасці на спецыялізаваныя банкі, якія знаходзяцца на яе тэрыторыі на момант прыняцця гэтай Дэкларацыі, арганізуе ўласныя падатковую і мытную службы; мае права на стварэнне ўласнай грашовай сістэмы.

### Артыкул 6

Тэрыторыя Беларускай ССР з'яўляецца непадзельнай і недатыкальнай і не можа быць зменена або выкарыстана без згоды Беларускай ССР.

Усе пытанні аб граніцах вырашаюцца толькі на аснове ўзаемнай згоды паміж Беларускай ССР і сумежнымі суверэннымі дзяржавамі шляхам заключэння адпаведных дагавораў, якія падлягаюць ратыфікацыі Вярхоўным Саветам Беларускай ССР.

### Артыкул 7

На тэрыторыі Беларускай ССР устанаўліваецца вяршэнства Канстытуцыі Беларускай ССР і законаў Беларускай ССР.

Усе грамадзяне і асобы без грамадзянства, дзяржаўныя органы, прадпрыемствы, установы і арганізацыі, якія знаходзяцца або дзейнічаюць на тэрыторыі Беларускай ССР, абавязаны выконваць заканадаўства Беларускай ССР.

Размежаванне заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады з'яўляецца важнейшым прынцыпам існавання Беларускай ССР як прававой дзяржавы.

Вышэйшы нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем законаў Беларускай ССР ажыццяўляецца Генеральным пракурорам Беларускай ССР, які назначаецца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР.

### Артыкул 8

Беларуская ССР самастойна ўстанаўлівае парадак арганізацыі на тэрыторыі рэспублікі аховы прыроды, выкарыстання прыродных рэсурсаў і забяспечвае народу рэспублікі экалагічную бяспеку.

Беларуская ССР мае права на пакрыццё страт, нанесеных ёй дзеяннямі саюзных органаў, саюзных рэспублік і іншых дзяржаў.

Беларуская ССР патрабуе ад Урада СССР безумоўнай і тэрміновай кампенсацыі страт, звязаных з пераадоленнем наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Сваю свабоду і суверэнітэт Беларуская ССР у першую чаргу выкарыстоўвае на выратаванне народа Беларускай ССР ад вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

### Артыкул 9

Беларуская ССР самастойная ў рашэнні пытанняў культурнага і духоўнага развіцця беларускай нацыі, іншых нацыянальных супольнасцяў рэспублікі, у стварэнні ўласнай сістэмы інфармацыі, адукацыі і выхавання.

Беларуская ССР забяспечвае функцыяніраванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, захаванне нацыянальных традыцый і гістарычнай сімволікі.

Нацыянальныя, культурныя і гістарычныя каштоўнасці на тэрыторыі Беларускай ССР з'яўляюцца выключна ўласнасцю рэспублікі і яе грамадзян.

### Артыкул 10

Беларуская ССР мае права на ўласныя Узброеныя Сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, падкантрольныя Вярхоўнаму Савету Беларускай ССР.

Беларуская ССР мае суверэннае права вызначаць парадак і ўмовы праходжання яе грамадзянамі вайсковай службы, службы ў органах дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, вырашаць пытанні размяшчэння войск і ўзбраення на сваёй тэрыторыі.

Ніякія вайсковыя фармаванні іншых краін, іх ваенныя базы і пабудовы не могуць быць размешчаны на тэрыторыі Беларускай ССР без згоды яе Вярхоўнага Савета.

Беларуская ССР ставіць мэтай зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а рэспубліку — нейтральнай дзяржавай.

### Артыкул 11

Беларуская ССР самастойна ажыццяўляе правы на добраахвотныя саюзы з іншымі дзяржавамі і свабодны выхад з гэтых саюзаў.

Беларуская ССР прапануе неадкладна прыступіць да распрацоўкі Дагавора аб саюзе суверэнных сацыялістычных дзяржаў.

### Артыкул 12

Палажэнні дадзенай Дэкларацыі рэалізуюцца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР шляхам прыняцця новай Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР, законаў Беларускай ССР.

27 ліпеня 1990 года.
г. Мінск.

*Ліст у рэдакцыю*

## Рашыла «дружная брыгада»...

У бярозаўскай раённай газеце «Маяк коммунизма» за 10 ліпеня г. г. быў надрукаваны артыкул пад загалоўкам «Не надо навязывать насильно» за подпісамі рабочых — членаў брыгады Бярозаўскага ХРСУ. Калі б у артыкуле разглядаліся ўнутрыраённыя праблемы, то не было б патрэбы знаёміць з імі грамадскасць рэспублікі. Але артыкул, замешаны на моцнай заквасцы нацыянальнага нігілізму, яўна скіраваны супраць адраджэння беларускай мовы і супраць Закона «Аб мовах у Беларускай ССР». І гэта, відаць, невыпадкова, бо з першага верасня Закон уваходзіць у дзеянне.

Аўтары, закранаючы моўную праблему ў раёне, робяць такое вось адкрыццё: «...кто наиболее усердно ратует за «возрождение» белорусского языка и скорейшего его внедрения в нашу повседневную жизнь, делают вид, будто не знают, что В НАШЕМ РАЙОНЕ КОРЕННОЕ НАСЕЛЕНИЕ НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ НИКОГДА НЕ ГОВОРИЛО». (падкрэслена мною.— В. С.). Вось так, шаноўныя нашы гісторыкі, этнографы, лінгвісты!

Увогуле аўтарам допіса ўласціва схільнасць да нечаканых высноў. Аказваецца, «смутьяны» беларусізацыі проста... «восточники», как называет их местное население...» Вось яны і прынеслі на Бярозаўшчыну чужую беларускую мову. Але бяда, на думку аўтараў, у тым, што ў «восточников» ёсць падтрымка сярод мясцовага насельніцтва: «...как оказалась в их рядах наша уважаемая землячка, наиболее активно выступающая за ТОТАЛЬНУЮ «БЕЛОРУСИЗАЦИЮ», Н. Матяш, — это понять трудно. Среди них она явно смотрится этакой белой вороной». І далей: «Если бы такой подход был присущ только отдельным гражданам, то это было бы полбеды. Но ведь такую политику закрывания глаз на реальное положение вещей (?! — В. С.) избрало не только руководство республики, но и руководители области, а так же и нашего района, судя по опубликованному в «Маяке коммунизма» проекту программы «Родная мова». Ну што тут скажаш!

Чым яшчэ ўстрывожаны бярозаўскія рабочыя? Ім «до боли обидно за наш прекрасный всеми любимый русский язык, СТАВШИМ НАШИМ ВТОРЫМ НАЦИОНАЛЬНЫМ ЯЗЫКОМ». Што датычыць дзвюх нацыянальных моў, то іх не можа быць у рэальнасці, як не можа быць дзвюх родных матак у аднаго і таго ж дзіцяці. Ну, а што тычыцца становішча рускай мовы ў нашай рэспубліцы, то заклапочанасць членаў дружнай брыгады і зусім беспадстаўная. Калі б так квітнела наша роднае слова, то не патрэбен быў бы нам, беларусам, і Закон аб мовах.

Плюралізм плюралізмам, але ж у якой іншай краіне са старонак газет беспакарана зневажаецца дзяржаўная мова — такая ж святыня, як герб, сцяг, гімн. Вось і мэта выступлення бярозаўскіх «інтэрнацыяналістаў», як бы яны ні камуфлявалі свае намеры, надта празрыстая — дыскрэдытаваць Закон «Аб мовах у Беларускай ССР», а таксама праект праграмы па адраджэнні роднай мовы ў Бярозаўскім раёне. Працытую яшчэ адзін пасаж: «Если же обратиться к проекту районной программы «Родная мова», то она, как и Закон «О языках в Белорусской ССР», ничего, кроме сожаления, не вызывает»...

Што ж, як калісьці пісаў вялікі Гюго: «Каждый делает свое дело как умеет: птицы поют, змеи шипят, не надо на них сердиться за это».

В. СОКАЛ,
*выдатнік народнай асветы БССР, член КПСС.*
Брэсцкая вобласць.

## З пошты «ЛіМа»

□

**У ЛІПЕНІ гэтага года я і некалькі маіх таварышаў суправаджалі групу дзяцей з Брагіна, Хойнікаў, Капаткевічаў і іншых раёнаў Чарнобыльскай зоны ў час паездкі на адпачынак і аздараўленне ў Польшчу.**

**А пачыналася наша падарожжа так. Жыхары горада Бытува Слупскага ваяводства Івона і Раман Бажэшкоўскія прачыталі ў газеце зварот з просьбай аб дапамозе дзецям Чарнобыля. Яны пайшлі да ксяндза Кшыштафа Шары. Ксёндз Чэзарэ, ксёндз Зялінскі ў касцёле звярнуліся да грамады. І вось нас запрасілі да сябе простыя людзі з горада Бытува і вёскі Удорне, што за 3 кіламетры ад яго.**

**Дзеці жылі ў польскіх сем'ях, як родныя. Не толькі «пра хлеб надзённы» клапаціліся гасцінныя гаспадары. Некалькі разоў арганізоўваліся дыскатэкі ў клубе ВКSМ з паказам «мульцікаў» і відэафільмаў. Спецыяльна для нас выступаў вядомы далёка за межамі Польшчы Кашубскі ансамбль песні і танца. Нас вазілі на экскурсію ў Гданьск, на цеплаходзе па моры, прычым усё было бясплатна.**

**Асобна хачу расказаць пра жыхароў вёскі Удорне, дзе знаходзілася я з дваццаццю дзецьмі. Мы з сынам і хлопчыкам з Хойніцкага раёна Пецем Каранчуком жылі ў сям'і Мастэрнакоў, дзе сваіх чацвёра дзяцей. Жылі мы ў асобных добра абсталяваных пакоях, харчаваліся разам з дружнай сям'ёй.**

**Тры тыдні, што праляцелі як адно імгненне, запомняцца нам на ўсё жыццё.**

**Прашу праз вашу газету выказаць нашу вялікую ўдзячнасць пані Бернадэце, пані Зофіі і пану Олеку Мастэрнакам, Ёлі, Ханцы, Рысеку, Элі і ўсім жыхарам вёскі. Будзем рады запрасіць іх да сябе ў госці. Сустрэнем ад усёй душы, як самых дарагіх і блізкіх.**

**Н. БУДАЙ.**

г. Мінск.

□

**З ЧАРГОВАГА нумара «ЛіМа» даведаўся, што журы конкурсу на помнік Ф. Скарыне большасцю ў два галасы пры няпоўным складзе вырашыла ставіць помнік не ля Акадэміі навук, а ў Верхнім горадзе. Гэта не што іншае, як спроба адсунуць асобу-вобраз Скарыны ў чыста гістарычны закутак.**

**Так, Скарына — гэта гісторыя, але сёння для справы беларускага Адраджэння — гэта фігура першай велічыні. Ён — і гісторыя, і сучаснасць. Месца помніка Францыску Скарыне — толькі на галоўнай вуліцы Мінска — праспекце Леніна. І тое, што ён паўстане ля Акадэміі навук БССР,—цудоўна і сімвалічна. У 1942 годзе ў Падуанскім універсітэце ў Італіі, дзе ў 1512 годзе Скарына закончыў вучобу, быў зроблены роспіс т. зв. залы Сарака. Там было змешчана сорак партрэтаў выдатных дзеячаў, якія сталі гонарам сусветнай навукі і культуры і якія вучыліся ці выкладалі ў сценах універсітэта. Сярод іх — Галілей, Капернік, а таксама наш Скарына. Італьянскі універсітэт увекавечыў памяць нашага Мысліцеля. Ці не адзіна разумным было б, каб і наша Акадэмія працягнула яму руку? Інтэлект Скарыны і інтэлект нашай Акадэміі — гэта звёны аднаго ланцужка. І гэта сувязь павінна быць паказана як мага відавочней. Удзячнасць вучоных Скарыне — гэта помнік Скарыне ў ансамблі з Акадэміяй. І гэта ўбачылі б, адчулі б і ацанілі б усе сумленныя людзі. Рознасць архітэктурных стыляў тут не перашкода, бо так складваецца гісторыя.**

**Што датычыцца помніка Скарыне ў Верхнім горадзе, то і там з цягам часу ён можа быць пастаўлены. Скарына гэтага заслугоўвае, ды і мы перад ім у вялікім даўгу.**

**К. ЛУСТАЧ.**

п. Умба.
Мурманская вобл.

□

**ПРАЗ «ЛіМ» уся наша сям'я далучае свае галасы да таго, каб помнік нашаму знакамітаму земляку Ф. Скарыне быў пастаўлены менавіта ля Акадэміі навук Беларусі, каб там была створана плошча імя Ф. Скарыны.**

**І абавязкова, каб Ленінскі праспект быў перайменаваны ў Скарынінскі.**

**В. ПЯТРОВА,**
**урач-неўрапатолаг.**

г. Мінск.

**26 ліпеня ў Доме літаратара ў Мінску адбыліся адразу дзве навукова-практычныя канферэнцыі, арганізаваныя грамадскім саюзам «Чарнобыль».**

**Адна з іх была прысвечана праблемам уздзеяння радыеактыўных нуклідаў. Другая — яна праводзілася сумесна з Міністэрствам жыллёва-камунальнай гаспадаркі БССР — разглядала праблемы забруджання пітной вады ў рэспубліцы, у прыватнасці, радыяцыйнага.**

**Пасяджэнні вёў старшыня саюза «Чарнобыль», пісьменнік В. Якавенка. У дыскусіях, па выніках якіх былі прыняты адпаведныя рэкамендацыі, прынялі ўдзел вучоныя, медыкі, геолагі, архітэктары, спецыялісты іншых галін з розных гарадоў рэспублікі, а таксама госці з іншых рэспублік.**

**Сярод удзельнікаў дыскусіі быў і фізік М. Малько, артыкул якога прысвечаны праблеме радыяцыйнай аховы насельніцтва на Беларусі, і прапануецца ўвазе чытачоў «ЛіМа».**

# І НАВУКА, І ПАЛІТЫКА

У «ЛіМе» за 20.07.90 г. змешчана публікацыя «Новыя «канцэпцыі», старая палітыка», звернутая да найважнейшай праблемы — праблемы пражывання ва ўмовах забруджання значнай часткі тэрыторыі Беларусі радыеактыўнымі нуклідамі. Вядомыя ў нашай рэспубліцы спецыялісты — член-карэспандэнт АН БССР В. Несцярэнка і кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт кафедры ядзернай фізікі і электронікі БДУ імя У. І. Леніна А. Люцко — на старонках штотыднёвіка выказвалі слушныя думкі наконт так званых часовых узроўняў забруджанасці прадуктаў радыенуклідамі, што дзейнічаюць у нашай рэспубліцы з 1988 года.

В. Несцярэнка і А. Люцко прывялі звесткі, якія паказваюць — практычна паўсюдна на Беларусі адбываецца назапашванне ў арганізме людзей радыеактыўнага цэзію.

Закранулі калегі і сумнавядомую канцэпцыю «35 бэр», распрацаваную спецыялістамі Нацыянальнай камісіі па радыяцыйнай ахове пры Міністэрстве аховы здароўя СССР (НКРА СССР). Супраць яе выступілі практычна ўсе савецкія спецыялісты па радыебіялогіі. Гэтае супрацiўленне адыграла выключна важную ролю. У чэрвені гэтага года Камісія Бюро ЦК Кампартыі Беларусі і Савета Міністраў БССР па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС адобрыла Рэспубліканскія кантрольныя ўзроўні (РКУ-90) утрымання радыенуклідаў па цэзію-137 і стронцыю-90 у харчовых прадуктах і пітной вадзе, якія сведчаць аб яўным адыходзе ад гэтай канцэпцыі. РКУ-90 распрацаваны Міністэрствам аховы здароўя БССР разам з Акадэміяй навук рэспублікі, Дзяржаграпрамам БССР і Белгідраметам.

Рэспубліканскія кантрольныя ўзроўні 1990 года дапускаюць утрыманне цэзію-137 у два-тры разы меншае чым узроўні ЧДУ-88, а гэта ў сваю чаргу павінна прывесці да зніжэння ў два-тры разы дозы ўнутранага абпраменьвання. Асабліва важна, што ўпершыню нармуецца ўтрыманне ў ежы стронцыю-90. Строгае выкананне нарматыву РКУ прывядзе да таго, што гадавая доза ўнутранага *абпраменьвання* крытычнай групы насельніцтва (група людзей, якія ўжываюць прадукты харчавання з утрыманнем ізатопаў цэзію-137 і стронцыю-90) на максімальным узроўні не перавысіць 0,17 бэра.

Многа гэта ці мала?

**Каб адказаць на гэтае пытанне, уявім на хвіліну, што кожны жыхар нашай рэспубліні на працягу года атрымае такую дозу. Для ўсяго насельніцтва нашай рэспублікі гэта складзе так званую калектыўную дозу дадатковага абпраменьвання ў адзін мільён семсот тысяч чалавек-бэраў (велічыня атрымана перамнажэннем колькасці жыхароў рэспублікі на велічыню гадавой дозы, якая складае ў нашым мадэльным выпадку 0,17 бэра). Гэта азначае, у сваю чаргу, магчымасць з'яўлення праз нейкі, *даволі працяглы* — да трыццаці гадоў — час ракавых захворванняў са смяротным зыходам колькасцю ў некалькі сот выпадкаў. Зразумела, пры выкарыстанні нормаў РКУ-90 жыхары Беларусі не набяруць такую велізарную калектыўную дозу, прыклад прыведзены толькі для таго, каб чытач зразумеў, што азначае наяўнасць у прадуктах радыенуклідаў. І хоць *пры ўмове выканання нарматываў* РКУ-90 няма пагрозы, што кожны жыхар Беларусі атрымае за год па 0,17 бэра толькі за кошт ежы, тым не менш, усе павінны разумець, што зніжэнне дапусцімых узроўняў утрымання радыенуклідаў — адна з важнейшых задач.**

**Важнасць зніжэння дапусцімых узроўняў утрымання радыенуклідаў у прадуктах харчавання можна праілюстраваць і іншым спосабам. Гадавая доза за кошт унутранага абпраменьвання, роўная 0,17 бэра, практычна раўназначная ўзрастанню знешняга гама-фону на 20 мікрарэнтген у гадзіну. Напрыклад, у Мінску, у залежнасці ад месца і часу, прыродны гама-фон (уключае таксама тэхнагенны фон і фон, абумоўлены аварыяй на ЧАЭС) складае ад 8 да 16 мікрарэнтген у гадзіну. Павялічым гэтую лічбу яшчэ на 20 мікрарэнтген у гадзіну — для тых, хто за кошт забруджаных прадуктаў атрымае 0,17 бэра ў год. Атрымаем 28—36 мікрарэнтген у гадзіну. Спытаем людзей, дзе ім лепш жыць — там, дзе 8—16 мікрарэнтген, або там, дзе 28—36 мікрарэнтген? Думаю, адказ будзе адназначны.**

Праграма ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС, прынятая на XII сесіі Вярхоўнага Савета II-га склікання, як вядома, заснавана на канцэпцыі беларускіх вучоных. Яе часта выкладаюць адным сказам: «нельга жыць там, дзе нельга атрымліваць чыстыя прадукты». Пры гэтым забываюць, што такое разуменне канцэпцыі прадстаўляе толькі адзін аспект яе, скіраваны на зніжэнне радыяцыйнага ўздзеяння на жыхароў забруджаных раёнаў Беларусі. *На самай справе* «беларуская канцэпцыя» больш глыбокая. Яна прадугледжвае абавязковае спыненне сельскагаспадарчай дзейнасці ў тых раёнах рэспублікі, дзе нельга атрымаць сапраўды чыстыя прадукты, а не прадукты, якія адпавядаюць новым часовым дапушчальным узроўням (РКУ-90) ці ЧДУ-88. У выпадку рэалізацыі *канцэпцыі* беларускіх вучоных спыняецца таксама распаўсюджванне ў нашай рэспубліцы і ва ўсім Савецкім Саюзе прадуктаў, забруджаных цэзіем і стронцыем. Спыняецца таксама разнос радыеактыўнага забруджвання, бо спыняецца сельскагаспадарчая вытворчасць у тых месцах, дзе немагчыма атрымаць чыстыя прадукты і дзе нельга жыць без абмежаванняў. Усе гэтыя меры будуць спрыяць змяншэнню калектыўнай дозы абпраменьвання, а значыць — *спрыяць змяншэнню шкоднага* ўздзеяння радыяцыі на людзей.

Вярхоўны Савет СССР пасля разгляду комплексу праблем у красавіку гэтага года ўхваліў беларускую праграму ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС. Гэта азначае, па сутнасці, што падтрымана канцэпцыя беларускіх вучоных, а не канцэпцыя «35 бэр». У *сваёй пастанове* Вярхоўны Савет СССР указаў таксама на неабходнасць распрацоўкі адзінай доўгатэрміновай дзяржаўна-рэспубліканскай праграмы па ахове насельніцтва СССР ад уздзеяння вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Відавочна, якая будзе канцэпцыя, такая будзе і адзіная дзяржаўна - рэспубліканская праграма. Іменна ў гэтым плане і трэба разглядаць сумненні наконт новай канцэпцыі маскоўскіх вучоных, выказаныя В. Несцярэнкам у лімаўскім інтэрв'ю.

Трэба сказаць, што гэтыя сумненні апраўданы хоць бы гісторыяй з'яўлення канцэпцыі «35 бэр». Яна была распрацавана спецыялістамі НКРА СССР яшчэ ў першай палавіне 1988 года, а *зацверджана* 22 лістапада 1988 года. Тэкст з апісаннем канцэпцыі «35 бэр» вучоныя АН БССР змаглі ўбачыць толькі ў канцы ліпеня 1989 года, і то пасля настойлівых патрабаванняў. Нежаданне Міністэрства аховы здароўя СССР пазнаёміць спецыялістаў з гэтым дакументам можна растлумачыць хіба тым, што яно само сумнявалася ў навуковым абгрунтаванні сваёй канцэпцыі. А тое, што яна не была дастаткова абгрунтавана, вучоным АН БССР стала ясна, як толькі яны атрымалі апісанне канцэпцыі «35 бэр».

Тыя самыя вучоныя, якія распрацоўвалі яе, удзельнічаюць і ў распрацоўцы новай канцэпцыі, *стварэння якой патрабуе* пастанова Вярхоўнага Савета СССР. Тут, аднак, трэба мець на ўвазе наступную акалічнасць. Згодна з рашэннем Вярхоўнага Савета СССР, у распрацоўцы мерапрыемстваў па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы павінны прыняць удзел Акадэмія навук СССР і Акадэміі навук БССР і УССР. Гэтае палажэнне прынцыповае, бо скіравана супраць манаполіі акадэміка Л. Ільіна і ягоных калег у вырашэнні пытанняў, надзвычай важных для будучыні беларускага народа.

Работа над стварэннем канцэпцыі бяспечнага пражывання, якая павінна стаць асновай праграмы ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы, пачалася. Рашэннем Савета Міністраў СССР створана спецыяльная рабочая група. У склад яе ўваходзяць вядомыя спецыялісты ў галіне радыебіялогіі, радыяцыйнай медыцыны і радыяцыйнай генетыкі, радыяцыйнай экалогіі і г. д. — вучоныя і спецыялісты, якія працуюць у інстытутах АН СССР, АН БССР, АН УССР, у навукова-даследчых установах Міністэрстваў аховы здароўя СССР: РСФСР, БССР, УССР і іншых ведамстваў.

Ад АН БССР у рабочую групу ўваходзяць народны дэпутат БССР, дырэктар Інстытута радыебіялогіі Я. Канапля, дырэктар Інстытута мікрабіялогіі А. Лабанок, намеснік дырэктара Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР М. Картэль, намеснік дырэктара Інстытута радыебіялогіі І. Ралевіч, намеснік дырэктара Інстытута ядзернай энергетыкі Ю. Дубіна, а таксама аўтар гэтых радкоў.

Першае пасяджэнне рабочай групы адбылося 20 ліпеня гэтага года ў Маскве. На ім абмеркаваны першачарговыя дзеянні. Зразумела, вучоныя АН БССР, прадстаўленыя ў гэтай рабочай групе, будуць абараняць гуманныя пазіцыі беларускай канцэпцыі. Але трэба зразумець і другое. Праблемы абмежавання маштабаў чарнобыльскай трагедыі не зводзяцца выключна да праблем навукова-тэхнічнага і эканамічнага характару. Тут ёсць праблемы, так бы мовіць, палітычнага характару.

Той факт, што нейкае цэнтральнае ведамства можа вызначыць, што і як мы павінны *рабіць у нашых варунках*, абумоўлена, на мой погляд, адсутнасцю рэальнага суверэнітэту Беларусі. Я не сумняваюся, што праблемы, народжаныя чарнобыльскай катастрофай, вырашаліся б інакш, калі б наша рэспубліка мела права сама рашаць, верыць ці не верыць тым маскоўскім спецыялістам, якія і сёння сцвярджаюць, быццам бы *павышэнне* колькасці захворванняў выклікана паляпшэннем дыягностыкі, або радыяфобіяй. Дзе яны бачылі тое «паляпшэнне», калі з гэтых рэгіёнаў адбываецца масавы адток медыцынскіх спецыялістаў? Калі паверыць, што іменна дыягностыка — прычына росту колькасці некаторых захворванняў у два-чатыры, а то і больш разоў у паўднёвых раёнах Беларусі, дык узнікае пытанне — што рабіла ўсе гады перад аварыяй на ЧАЭС кіраўніцтва Міністэрства аховы здароўя БССР і *наогул* кіраўніцтва нашай рэспублікі? Няўжо ў нашай рэспубліцы такі стан аховы здароўя, што людзі хварэюць, а ніхто і не ведае аб гэтым?

Можна зрабіць некалькі заўваг і наконт радыяфобіі. Цікава, чаму праявы радыяфобіі не адзначаюцца ў тых рэгіёнах, дзе людзі *спажываюць* чыстую ежу, дзе нармальны прыродны радыяцыйны фон (каля 10 мікрарэнтген у гадзіну)? На гэтае маё запытанне мне могуць адказаць: там людзі ведаюць, што пражываюць у нармальных умовах. Але гэта азначае, што пражыванне ва ўмовах павышанай радыяцыі стварае псіхалагічнае напружанне, якое *можа прывесці да адхілення ў* стане здароўя. Значыць, яно павінна разглядацца як нейкі матэрыяльны фактар уздзеяння на стан здароўя чалавека, а таму — трэба зняць само ўздзеянне радыяцыі. Тады знікне і псіхалагічнае напружанне.

Акрамя таго, нельга гаварыць аб радыяфобіі ў тых р[illegible]*нах, дзе людзі вымушаны* ўж[illegible]ваць забруджаныя радыенуклідамі прадукты. Справа ў тым, што любое павышэнне абпраменьвання звязана з павышэннем колькасці ракавых захворванняў, у прыватнасці, лейкеміі. Іншая справа, што розныя спецыялісты прытрымліваюцца розных меркаванняў аб колькасці гэтых захворванняў. Але ўсё роўна, практычна кожнаму чалавеку, які падвяргаецца дадатковаму абпраменьванню ў так званых малых дозах, аднолькава пагражае небяспека захварэць на рак і г. д. Таму і трэба імкнуцца максімальна зніжаць уздзеянне радыяцыі на насельніцтва. А гэта ўжо — непасрэдная сфера палітычных рашэнняў Вярхоўнага Савета рэспублікі.

Вучоныя і спецыялісты павінны выпрацоўваць правільныя рэкамендацыі, а палітыкі — правільна іх выкарыстоўваць. У сувязі з гэтым хацелася б выказаць надзею, што нарэшце ў нашай рэспубліцы будуць створаны Нацыянальная камісія па радыяцыйнай ахове і пазаведамасны цэнтр радыяцыйнага кантролю. Неабходнасць у арганізацыі гэтых структур наспела і не церпіць прамаруджвання.

**Міхась МАЛЬКО,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук,**
**вядучы навуковы спецыяліст**
**Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР.**



**Валянцін ЛУКАШОЎ,**
член-карэспандэнт АН БССР

# Чарнобыль і вучоныя: «ТЭЛЕРЫ» ЦІ «ПОЛІНГІ»?

БОЛЬШАСЦЬ чытачоў ведае, што зараз паміж вучонымі ідзе дыскусія пра нормы радыеактыўнасці для бяспечнага пражывання ў раёнах, што пацярпелі ад аварыі Чарнобыльскай АЭС. Маскоўскія вучоныя прапанавалі 35-бэрную канцэпцыю, у той час як беларускія вучоныя лічаць, што чалавек не можа жыць там, дзе ён не можа атрымліваць чыстую прадукцыю. Асабліва гэта тычыцца сельскіх жыхароў, якія вырошчваюць прадукты для сябе і здачы дзяржаве, пасля чаго яны распаўсюджваюцца па ўсёй краіне. Для рашэння, мабыць, гэтага пытання, а таксама экспертызы радыелагічнага ўздзеяння на здароўе людзей, ацэнкі эфектыўнасці ахоўных мерапрыемстваў Савецкі ўрад запрасіў 100 вучоных з Аўстрыі, Канады, Фінляндыі, Францыі, Японіі, Англіі, ЗША, а таксама з міжнародных арганізацый КЕС, ФАО, НКДАР, ААН, ВОЗ, МАГАТЭ для правядзення даследаванняў у пацярпелых раёнах УССР, БССР і РСФСР.

29 чэрвеня гэтага года на сустрэчы з вучонымі АН БССР Генеральны дырэктар МАГАТЭ Ханс Блікс заявіў у сваім выступленні, што асноўныя намаганні замежных вучоных будуць скіраваны не на паўторныя здымкі радыеактыўнасці тэрыторыі, а на інтэрпрэтацыю ўжо атрыманых беларускімі і іншымі савецкімі вучонымі матэрыялаў з мэтаю іх выкарыстання на карысць беларускага народа, усяго чалавецтва. Восенню гэтага года будзе дадзена справаздача. Аднак канчатковыя высновы пра вынікі Чарнобыля *запатрабуюць* некалькіх гадоў даследаванняў.

Чарнобыль — гэта сапраўды трагедыя такога маштабу, што для ліквідацыі вынікаў аварыі патрэбен разумовы патэнцыял і дапамога ўсяго чалавецтва. Значэнне міжнародных навуковых сувязей разумелі яшчэ антычныя і сярэдневяковыя вучоныя. І не толькі разумелі, але па меры магчымасцей у той час іх ажыццяўлялі. У нашу эпоху, нават у перыяд суперсакрэтнасці, за развіццё міжнароднага навуковага супрацоўніцтва выступалі У. Вярнадскі, П. Капіца, А. Сахараў і інш. Разам з тым зусім нядаўняя гісторыя нашага грамадства паказвае, што яно схільнае да крайнасцей і ў дачыненні да супрацоўніцтва вучоных: ад барацьбы з «касмапалітызмам» і сітуацыі, калі ўсе сусветныя адкрыцці рабілі толькі рускія вучоныя, да становішча ганебнага нізкапаклонства перад усім замежным і ліслівага зазірання ў рот замежным вучоным, чакаючы, што менавіта адтуль вылеціць ісціна ў апошняй інстанцыі. У дачыненні да Чарнобыля абедзве гэтыя крайнасці шкодныя. Асабліва другая, калі ўлічваць таксама, што пэўная частка апарату можа выкарыстоўваць супярэчнасці *паміж вучонымі* ў сваіх мэтах. Як пісаў нядаўна А. Мігдал, кіраўнікі нашай краіны «альбо не слухаюць вучоных, альбо выбіраюць парады, што супадаюць з іх уласным меркаваннем, альбо выслухоўваюць і робяць па-свойму» («Литературная газета» за 4 студзеня 1989 года).

Не хацелася б таксама, каб у сувязі з прыездам замежных вучоных у часткі нашай грамадскасці складвалася ўражанне, што савецкія вучоныя бездапаможныя ў вырашэнні праблем Чарнобыля. Таму гэты артыкул прысвечаны вытлумачэнню складанасці паасобных з гэтых праблем і аналізу магчымасцей як замежных, так і савецкіх вучоных.

ВАРТА АДРАЗУ АДЗНАЧЫЦЬ, што па многіх раздзелах савецкая навука займае вядучае становішча ў свеце, і нашы замежныя калегі высока цэняць яе. Аўтару артыкула ў час шматлікіх сустрэч з замежнымі вучонымі даводзілася асабіста пераконвацца ў гэтым.

Разам з тым чарнобыльская аварыя паставіла шэраг складаных праблем, у вырашэнні якіх няма дакладных адказаў сёння ні ў замежных, ні ў савецкіх вучоных. Напрыклад, як пісалі англічане ў досыць сур'ёзным брытанскім энцыклапедычным выданні «Медыцына і здароўе» за 1988 год, Чарнобыль заспеў еўрапейскіх вучоных знянацку, і ў іх не было аніякай згоды ў адносінах да гранічна дапушчальных канцэнтрацый радыеактыўнасці ў прадуктах харчавання. Большасць краін узялі ў якасці гранічнай нормы 600 Бк/кг, але Францыя падняла яе да 1000 Бк/кг. У той жа час у Швецыі яна склала 300 Бк/кг. Федэральны ўрад Германіі зацвердзіў норму для малака 250 Бк/кг, але дзве зямлі ў ФРГ знізілі яе да 20 Бк/кг. У Заходнім Берліне знішчылі 240 тысяч літраў малака з ГДР, якое мела ўсяго 7,5 Бк/л, але ў той жа час баварцы пілі малако, у якім было 900 Бк/л.

Многія амерыканскія даследчыкі лічаць, што ў прадуктах харчавання не павінна быць наогул ніякай тэхнагеннай радыеактыўнасці (за кошт стронцыю, цэзію, плутонію і г. д.), толькі нізкая прыродная, якую ствараюць калій, уран, радый, торый. Амерыканскія ўрачы былі вельмі заклапочаны ў 50—60 гадах, калі пасля выпрабаванняў ядзернай зброі ў малацэ ў Нью-Йорку была выяўлена радыеактыўнасць у $10^{-12}$ кюры/л за кошт стронцыю і цэзію. Між іншым, Р. Гейл у адным са сваіх інтэрв'ю выказаў думку аб тым, што прадукты харчавання павінны быць зусім чыстыя.

Што тычыцца нашых савецкіх норм, дык камісія Мінздрава СССР вызначыла іх у маі 1986 года для згушчанага малака ў 18,5; мяса-ялавічыны ў 3,7; маргарыну ў 7,4 раза вышэй за самыя высокія еўрапейскія нормы. Напэўна, у разліку на самага вынослівага і жыццястойкага ў свеце савецкага чалавека! Такім чынам, сёння відавочныя дзве рэчы. Па-першае, трэба тэрмінова зніжаць нормы Мінздрава СССР, а, па-другое, вучоным належыць сумеснымі намаганнямі знайсці нейкія прымальныя, бяспечныя ўзроўні канцэнтрацыі радыеактыўнасці ў харчовых прадуктах, калі яны наогул існуюць для такіх элементаў, як стронцый-90, які паступова назапашваецца ў касцях чалавека. На наш жаль, у заходніх краін няма вопыту кармлення свайго насельніцтва радыеактыўнымі прадуктамі. Таму і заходнія вучоныя тут не вельмі могуць памагчы парадамі. А эксперыментаў з мышамі і пацукамі ў нас хапае і сваіх! Становішча яшчэ пагаршаецца тым, што, як высветлілася, некаторыя *ландшафты* з нізкай (1—5 кюры/км²) радыеактыўнасцю могуць даваць непрыдатныя для выкарыстання сельскагаспадарчыя прадукты. Такім чынам, толькі вонкавая радыеактыўнасць тэрыторыі сама па сабе перастае быць меркай магчымасці жыцця на ёй чалавека. Адказ дае якасць прадуктаў, якія атрыманы тут. Вырашэнне гэтай праблемы тым больш важна, што яны з'яўляюцца краевугольным каменем беларускай канцэпцыі «нельга жыць там, дзе нельга атрымліваць чыстую прадукцыю». А што такое чыстая прадукцыя?

Няма ў вучоных агульнай думкі і наконт ацэнкі вынікаў аварыі на ЧАЭС для здароўя насельніцтва. Погляды і разлікі тут сярод замежных вучоных даволі розныя. (У нашых прафесійных медыкаў і чыноўнікаў да апошняга часу ўсё было проста здарова!) Джон Гофман, прафесар Каліфарнійскага універсітэта ў Берклі, лічыць, што на працягу наступных 70 гадоў ахвярамі чарнобыльскай аварыі стануць 424300 ракавых хворых у СССР і яшчэ 526700 у іншых кутках Еўропы, з якіх палова памрэ з гэтай прычыны. Роберт Гейл даваў лічбу ў 75000 дадатковых ракавых хворых у свеце, уключаючы 26000 у СССР. Наколькі вядома аўтару артыкула па літаратурных крыніцах, спецыялісты ВОЗа адмовіліся пакуль што даваць ацэнку ахвяр Чарнобыля, спаслаўшыся на тое, што ў іх няма для гэтага методыкі і што натуральныя ваганні колькасці анкалагічных хворых у розных краінах і рэгіёнах настолькі значныя, што на іх фоне цяжка выявіць уплыў Чарнобыля. Пэўна, спецыялісты ВОЗа паказалі прыклад навуковай сумленнасці. Відаць, зараз не так важна падлічыць будучыя ахвяры, як прыняць захады па перасяленні насельніцтва і навядзенні парадку з якасцю прадуктаў, каб гэтых ахвяр было менш.

Што датычыць уплыву Чарнобыля на іншыя віды захворванняў, дык тут становішча яшчэ больш складанае, бо як многія савецкія, так і замежныя вучоныя не прызнаюць іх сувязі з радыеактыўнасцю. Хоць амерыканцы ў 70-х гадах нібыта статыстычна даказалі, што шэраг хвароб пайшоў на зніжэнне пасля спынення выпрабаванняў ядзернай зброі ў атмасферы і што з радыяцыяй звязаны не толькі рак, але таксама разбурэнне імуннай сістэмы, сардэчна-сасудзістыя хваробы, дзіцячая прыдуркаватасць і г. д., аднак гэтыя дадзеныя пасля былі забыты і не ўсімі вучонымі былі прыняты. Тут варта зрабіць агаворку, што спроба чалавецтва выкарыстаць энергію атама ў XX стагоддзі з'яўляецца яркім прыкладам таго, што развіццё тэхналогіі павінна ісці ў нагу з з экалагічнымі, медыцынскімі, сацыялагічнымі і іншымі даследаваннямі. Грамадства, якое затраціла сотні мільярдаў грошай на стварэнне зброі масавага знішчэння сябе (напрыклад, у перыяд з 1945 года толькі ЗША затрацілі на вытворчасць прыкладна 65 тысяч ядзерных боегаловак каля 250 мільярдаў долараў) і поруч з атамнай бомбай узнікшага так званага «мірнага атама», на жаль, не захацела затраціць некалькі мільярдаў на папярэдняе вывучэнне пытання, як радыеактыўнасць уздзейнічае на здароўе чалавека. Калі б гэта было зроблена загадзя, дык чалавецтва, магчыма, адклала б выкарыстанне атамнай энергетыкі на XXI ці XXII стагоддзе. Таму такое грамадства не мае права зараз прыставаць да сваіх вучоных, так бы мовіць, з нажом да горла і патрабаваць: адказвайце, як узнікае і як лячыць рак, СНІД ці як уздзейнічае на арганізм слабая і не надта слабая тэхнагенная радыеактыўнасць. Адказы на гэтыя тайны прыроды вымагаюць вялікіх сродкаў і часу. Тым не менш за мінулыя дзесяцігоддзі ўжо назапашана нямала дадзеных па ўздзеянні радыеактыўнасці на чалавечы арганізм і ўсе гэтыя дадзеныя трэба выкарыстаць пры ліквідацыі вынікаў Чарнобыля.

Амерыканцы і японцы маюць каштоўныя даследаванні вынікаў атамнай бамбардзіроўкі Хірасімы і Нагасакі (між іншым, у залежнасці ад падлікаў нашых вучоных, Чарнобыль ацэньваецца то ў дзесяткі, то ў сотні Хірасім). Як было апублікавана ў 1987 годзе, група японскіх і амерыканскіх даследчыкаў на аснове навейшых аналізаў матэрыялу Хірасімы і Нагасакі прыйшла да высновы, што радыеактыўнасць, у прыватнасці гама-выпраменьванне, больш небяспечная, чым думалі раней. Яна выклікае прыкладна ў 3—4 разы больш пашкоджанняў і смяротных выпадкаў, чым лічылася дагэтуль. Гэтыя пераацэнкі, у прыватнасці, прывялі да зніжэння ўзроўню норм бяспекі на атамных электрастанцыях у заходніх краінах. У амерыканцаў ёсць таксама каштоўныя звесткі пра захворванне персаналу палігонаў, а таксама жыхароў бліжэйшых штатаў, у час выпрабавання атамнай зброі ў штаце Нявада, на Бікіні, сярод насельніцтва Маршалавых астравоў, шматлікія дадзеныя пра здароўе людзей, якія працуюць на АЭС, а таксама шматгадовы вопыт прымянення радыепрэпаратаў пры лячэнні розных захворванняў, калі, напрыклад, лячылі шчытападобную залозу, а ў якасці ўскладнення чалавек набываў лейкоз ці рак мозга і г. д.

Кантакт з замежнымі вучонымі, безумоўна, карысны для нас дзеля паляпшэння нашай лабараторнай базы, набыцця навыкаў ранняй дыягностыкі захворванняў крыві і іншых захворванняў, і галоўнае — метадаў іх лячэння. На жаль, працэнт вылячэння лейкозу і многіх відаў рака пакуль значна вышэйшы ў заходніх краінах, чым у нас.

У той жа час нявартa забываць, што наша краіна валодае больш багатым матэрыялам для вывучэння ўздзеяння радыеактыўнасці на насельніцтва, чым заходнія дзяржавы. Калі апошнія (ЗША, Францыя, Вялікабрытанія) выпрабоўвалі ядзерную зброю дзе-небудзь далей ад сябе (на Бікіні, атоле Мururoa ці ў пустынях Аўстраліі), то наша краіна праводзіла іх на сваёй тэрыторыі. У выніку, на жаль, жыхары многіх раёнаў Казахстана, Запаляр'я, Урала і г. д. пацярпелі ад гэтага. Пра гэта цяпер досыць шмат пішуць (гл. хоць бы «Літаратуру і мастацтва» за 15 чэрвеня г. г.). Гэты журботны вопыт з'яўляецца як бы нашым «нацыянальным здабыткам», і яго трэба як мага паўней і хутчэй вывучыць, каб выкарыстаць для вырашэння чарнобыльскіх праблем. На жаль, да апошняга часу ўсе гэтыя матэрыялы былі засакрэчаны. Цяпер самыя сенсацыйныя рэчы выйшлі на старонкі масавага друку. Аднак вучоным патрэбен дасканалы аналіз усіх дадзеных.

ГАДОЎ СОРАК НАЗАД, на пачатку распрацоўкі ядзернай зброі, між вучонымі ішла дыскусія пра вынікі ядзерных выпрабаванняў для чалавецтва і біясферы. Адзін накірунак узначальваў вядомы вучоны-атамшчык Тэлер. Ён і яго паслядоўнікі лічылі, што забруджанне атмасферы радыеактыўнымі элементамі не з'яўляецца ў якой-небудзь меры небяспечным для чалавецтва. У атмасферы, маўляў, заўсёды існавалі радыеактыўныя элементы, і, натуральна, чалавек заўсёды падвяргаўся ўздзеянню ўсіх відаў радыеактыўнага выпраменьвання. На іх думку, ад узрываў атамных бомбаў радыеактыўнага выпраменьвання дадавалася гэтак мала, што ніякай прыкметнай шкоды гэта як быццам не павінна было прынесці. Усё гэта, само сабою, пацвярджалася доўгімі разлікамі, якія старанна абгрунтоўваліся. У тыя гады прыхільнікі Тэлера лілі ваду на млын ваенна-прамысловага комплексу ЗША, якія хацелі ў што б там ні стала ўдасканальваць атамную зброю, дзеля чаго патрэбны былі выпрабаванні. Сёння яны, напэўна, сярод апалагетаў ядзернай энергетыкі і будаўніцтва АЭС!

Другі накірунак, прыхільнікі якога лічылі неабходным забараніць атамныя выпрабаванні, узначальваў не менш вядомы вучоны, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Полінг. Ён і яго паслядоўнікі сцвярджалі, што фармальны колькасны падыход, зроблены Тэлерам, тут непрымальны, бо неабходна ўлічваць уплыў радыеактыўнага забруджвання на складаны механізм біяпрацэсаў. Жыццё пацвердзіла правату Полінга. (Такую ацэнку, напрыклад, даў акадэмік П. Капіца ў адным са сваіх выступленняў). Аказалася, што радыеактыўны стронцый, які выпадае за сотні кіламетраў ад месца выбуху ядзернай бомбы, сапраўды дае вельмі невялікую дадатковую радыеактыўнасць самой глебы, але пасля, трапляючы ў траву, карову, яе малако, аказваецца ў касцях дзяцей, якія асабліва адчувальныя да радыяцыі. А гэта прыводзіць да развіцця асобных відаў прамянёвай хваробы, якая часта канчаецца смерцю чалавека.

Неўзабаве былі выяўлены ўласцівасці радыенуклідаў назапашвацца ў харчовым ланцужку ў велізарных канцэнтрацыях. Напрыклад, вада, што скідваецца атамнай электрастанцыяй у Хэнфардзе (ЗША), лічылася спачатку зусім бясшкоднай. Аднак пазней высветлілася, што ў суседніх вадаёмах у 2000 разоў павысілася радыеактыўнасць планктону, а радыекатыўнасць качак, што харчаваліся планктонам, павялічылася ў 40000 разоў, рыба ж стала ў 150000 разоў больш радыеактыўная за ваду, што скідвала электрастанцыя. Ластаўкі, што лавілі насякомых, лічынкі якіх развіваліся ў вадзе, выявілі радыеактыўнасць у 500000 разоў больш высокую, чым вада самой станцыі. У жаўтку яек вадаплаўных птушак радыеактыўнасць павысілася ў мільён разоў. Высветлілася таксама, што многія ландшафты, напрыклад, забалочаныя землі Беларусі, аказаліся асабліва адчувальныя да радыеактыўных забруджванняў.

На жаль, і чалавецтва, і многія вучоныя вельмі марудна засвойваюць назапашаны вопыт. І сёння, праз многа гадоў, нават пасля Чарнобыля, працягваюць шчасліва існаваць як *прыхільнікі Тэлера, так і Полінга*. Прычым, як у нас, так і за мяжой. Хоць дэталі спрэчкі, натуральна, змяніліся, аднак у сваёй сутнасці, у дачыненні да біясферных працэсаў, рознагалоссі засталіся тыя ж. Я на ўласныя вушы чуў, як на адной нарадзе акадэмік А. Аляксандраў падаў з месца незадаволеную рэпліку, што ў Індыі і Бразіліі ёсць пляжы з вельмі высокай радыеактыўнасцю, таму, маўляў, беларусам няма асаблівых падстаў празмерна скардзіцца на радыеактыўнасць сваіх ландшафтаў. Акадэмік Я. Веліхаў, выступаючы нядаўна на Вярхоўным Савеце СССР (пасяджэнне транслiравалася па тэлебачанні) з выпадку Чарнобыльскай праграмы, таксама заявіў, што на свеце наогул не бывае чыстых ад радыяцыі ландшафтаў. А генеральны дырэктар МАГАТЭ Блікс у гутарцы, апублікаванай у газеце «Праўда» 15 мая г. г., таксама параўнаў чарнобыльскую сітуацыю з высакагорнай Мексікай, дзе ўзровень радыяцыі досыць высокі. Нарэшце, добра вядо-

(Працяг на стар. 12).

## *Штрыхі да творчага партрэта*

# Цяжкі шлях да святла



**Перачытваючы раманы Паўла Місько**

**І святло ў цемры свеціць, і цемра не пахавала яго.**
(Евангелле ад ІААНА, 1, 5).

ПА УЗРОСТУ (нарадзіўся ў 1931 г.) ён трохі старэйшы за большасць з тых беларускіх празаікаў, каго называюць цяпер пакаленнем «шасцідзесятнікаў». Ды і ягонае першае апавяданне («Унучка бальшавіка») надрукавана яшчэ ў канцы пяцідзесятых. Тым не менш можна з упэўненасцю сказаць: і Паўла Місько абудзіла да творчасці менавіта тая дзіўная і даволі кароткая пара ў нашай блізкай айчыннай гісторыі, якую інтэлектуалы ахрысцілі «адлігай». Эпоха XX з'езда КПСС і хрушчоўскіх рэформ — з аднаго боку ўразлівых, але ж і нейкіх хісткіх, сутаргавых. У Крамлі партдэлегаты слухаюць знакаміты даклад пра Сталіна, аднак астатнім грамадзянам Саюза тэкст ягоны ўдаецца пачытаць толькі ў зашмальцаваных машынапісных копіях «самвыда» ці пачуць, калі хопіць нерваў, праз дзікае выццё глушылак у радыёперадачах Бі-бі-сі.

Гэткі вось час «адлігі» пасярод зімы: з раніцы згодна глабальнаму пацяпленню прыгравае сонейка надзеі, але што будзе к ночы? І хоць ужо сыходзіліся пры кожным выпадку маладыя літаратары ля сяброўскага вогнішча ў Каралішчавічах, каб учуць застуджаныя галасы нядаўніх зэкаў — элегічнага Міколы Хведаровіча ці іранічнага Рыгора Бярозкіна, але ж ужо зноў, як зусім нядаўна, трасуць «кампетэнтныя органы» маладых гісторыкаў з Акадэміі навук БССР, махаючы дубінай такога знаёмага «нацдэму», — за падазроную цікаўнасць да мінуўшчыны роднага краю. А ў Маскве прынародна цкуюць Барыса Пастэрнака, і хваля неўзабаве дакочваецца да Мінска. І вось ужо на пашыраным пасяджэнні праўлення рэспубліканскага Саюза пісьменнікаў літаратурнае чыноўніцтва Беларусі, распальваючы ў сабе «святую класавую нянавісць» да высокага майстэрства і чалавечай годнасці, спаборнічае ў кляйменні паэта, твор якога наўрад хто з іх і чытаў.

Якраз у той час супрацоўнік раённай газеты Павел Місько ў далёкім Давыд-Гарадку піша свае першыя апавяданні, і надзвычай цяжка пачаткоўцу пазбегнуць дурману «сацрэалістычнай» імітацыі, прыхарошвання жыцця, хоць і паспытаў яго, сапраўднага, гэты малады літаратар ужо багата. Насычанага цяжкай і амаль бясплатнай працай, пастаянна працятага страхам-прымусам.

Ён і нарадзіўся ў гады Вялікага прымусу, калі яго бацькі ўступілі ў калгас. А вось дзед з боку маці — Лукаш Нядзелька, хоць і быў не з заможнікаў, ісці ў «кагал» не хацеў і ўсё тут. І тады за яго ўзяліся «акцівісты». З тых, у каго сваё чамусьці не надта радзіла, але каторыя ярасна прагнулі татальна і найхутчэй абагуліць чужое, — «працэнты ўсё гналі», растлумачвала тое маці будучага пісьменніка. «Акцівісты», каб пазбавіць упартага Лукаша магчымасці хоць неяк існаваць незалежна, у запале беспакаранасці разбурылі ягоныя гаспадарчыя пабудовы, нават сенцы ў хаце.

Пра ўсё гэта цікаўны хлапчук даведваецца ад маці. Сам дзед Лукаш пра сваю абразу не гаварыў і нікуды наогул не скардзіўся, проста «зацяўся». О, гэта наша так званая зацятасць! Як да яе ставіцца? І наогул — як адрозніць яе ад пакорлівасці вала? Менавіта ж такую пароду і імкнулася вывесці на Беларусі спачатку царскае, а потым і «пралетарскае» начальства, праводзячы сацыяльную селекцыю «тутэйшых» у гэтым накірунку бязлітаснай рукой. На радзіме Паўла Місько — Случчыне, дзе людзі славіліся гаспадарлівасцю, тая «пралетарская» селекцыя пачалася практычна з 1920 года, калі случакі першы раз не вытрымалі гвалту татальнай харчразвёрсткі,—з засекаў тады выграбалася нават апошняе насенне. Бунтаўшчыкоў уціхамірвалі расстрэламі. Ацалелых ці падросшых «крыкуноў» ды ўпартых праз дзесяць гадоў «супакоілі» ў часе калектывізацыі. Так што ўрэшце засталіся (і то далёка не ўсе) хоць, можа, і «зацятыя» ў душы, але пакорлівыя. Ад іх, адселекцыяніраваных, нарадзіліся новыя пакаленні, якія ў асноўным і сталі героямі раманаў і аповесцяў Паўла Місько.

Вернемся, аднак, да пачатку яго пісьменніцкай і наогул жыццёвай адысеі. У той яе перыяд, калі ўнук Лукаша Нядзелькі пайшоў у школу. Там тады ўжо праслаўлялі, паміж іншым, подзвіг піянера Паўліка Марозава, які быццам бы данёс у карныя органы на свайго бацьку-«падкулачніка». А дома, назіраючы, як маці загортвае ў хусцінку яшчэ цёплы бохан хлеба ці толькі што адціснуты сырчык ды збанок малака, каб аднесці старому Лукашу, піянер Паўлік Місько дапытваўся: «А чаму дзед не ходзіць у калгас? А чаму ў яго такая абгрызеная хата?» І чуў расказ пра калектывізацыю. У тым, што Лукаш Нядзелька так і не адбудаваў некалі разбураныя «акцівістамі» сенцы, ёсць свая сімволіка. Ёсць і неаспрэчны доказ: нягледзячы на свой добры нораў, Нядзелька ўсё ж не дараваў гвалтаўнікам абразы, так і нёс праз жыццё ў душы вялізны цяжар, як цяпер кажуць, стрэсу. Не ўсе з яго пакалення гэта і вытрымлівалі, дарэчы. Можна не сумнявацца: татальны прымус да «светлай будучыні» пэўным чынам паўплываў на псіхічны стан асноўнай масы ацалелага сельскага насельніцтва. Нашчадкі ж атрымлівалі ўжо гэтыя вынікі сацыяльнай селекцыі ў генную спадчыну. Найбольш жыццястойкі элемент усімі сродкамі імкнуўся інстынктыўна пакінуць вёску і як мага хутчэй забыць сваё мінулае, у тым ліку мову, народныя звычаі. Вось чаму і даводзіцца аднаму з герояў рамана Паўла Місько «Градабой» «донкіхотстваваць», расходуючы мізэрныя ўласныя сродкі, «матацца» па вёсках у пошуках дзе-нідзе ацалелых носьбітаў таго фальклору, у асноўных бабулек, якія адна за адной сыходзяць у атручаны суцэльнай хімізацыяй дол.

Дзед Лукаш адчуваў палёгку ў часе вандровак па лесе. Калі ўнук крыху падрос і таксама зацікавіўся прыродай, дзед стаў браць з сабою і яго. «Я з вялікай цеплынёй успамінаю Лукаша Аляксандравіча Нядзельку, — зазначае пісьменнік у аўтабіяграфічным эсэ «На покліч душы».—І якіх бы старых я потым ні выводзіў у сваіх творах (Лукаш у «Калодзежы», Стахей у аповесці «Зямля ў нас такая», Параненька ў аповесці «Поезд ішоў на захад», нават бабка Вера з цыкла «Ласіныя пацеркі»), некаторыя рысачкі дзеда Лукаша я перадаваў ім». Дадамо, што і ў раманах «Мора Герадота» і «Градабой» жыве ягоная душа. А яшчэ, заўважае пісьменнік, «у хвіліны меланхоліі або калі вельмі надакучыць звяглівая Палашка (другая жонка), заўсёды разгортваў Евангелле. Чытаў голасна, хоць быў хто за слухача, хоць не». Тую, ахутаную таямніцай старую кнігу з «цітламі» незадоўга да смерці Лукаш Нядзелька падараваў унуку. Што, аднак, не перашкодзіла таму напачатку свайго літаратурнага шляху выдаць кніжкай нарыс «Адмаўленне ад крыжа».

Было. Аказваецца, з путаў «ваяўнічага» атэізму, які літаральна з першага класа ўбівалі ў галовы школьнікам, выкараскацца было не проста нават таму, хто атрымаў Евангелле ў спадчыну ад любімага дзеда. Іншая справа, што маладым літаратарам валодала хутчэй не «пралетарская» ваяўнічасць атэіста, а трывога за тых з землякоў, хто, запалоханы рэпрэсіўным ладам, апусціў рукі і стаў на калені перад злом, спадзеючыся ўжо толькі на боскую ласку. Ды і наогул сціплую тую кніжачку хутчэй можна аднесці да журналісцкай практыкі аўтара, чым да мастацтва прыгожага пісьменства. А вядома ж: у часіны грамадзянскай няволі першай гіне сапраўдная, чэсная журналістыка. Яе лягчэй «пільнаваць» чыноўнікам ад казённай ідэалогіі. Прамое журналісцкае слова навідавоку, яно прасцей паддаецца праўцы, прымусоваму скажэнню. У такіх умовах, каб неяк духоўна выжыць і выконваць свой грамадзянскі абавязак, сумленныя журналісты вучыліся не толькі майстэрству сцісла ды змястоўна апісваць падзеі, але і «заганяць» тое-сёе ў падтэкст, у разліку на здагадлівага чытача.

Прайшоў гэтую школу і Павел Місько. А перад тым і працоўная жыццёвая школа падлетка была досыць жорсткай. Жах акупацыйнага ліхалецця, пасляваенная галеча, бесперапынная праца ў калгасе практычна задарма. А яшчэ ж дапамога бацькам, што хоць і былі працавітымі, а ледзьве зводзілі канцы з канцамі і пастаянна ламалі галаву — што б такое занесці на базар у Слуцак, за пятнаццаць кіламетраў, каб атрымаць капейчыну і на падаткі, і на штогоднія абавязковыя дзяржаўныя пазыкі («добраахвотныя»!), і каб унесці плату за вучобу дзяцей у сярэдняй школе, і каб нейкую адзежыну купіць. Ды як ні біліся, колькі сам Павел той калгаснай работы ні перарабіў, а не меў нават паліто. Так і хадзіў амаль цэлы семестр у старым пінжаку, калі стаў студэнтам аддзялення журналістыкі БДУ. Пакуль адзін з сакурснікаў, заўважыўшы, як сінее і курчыцца хлопец ад холаду, не прынёс яму стары салдацкі шынялёк.

Здавалася б, уражанняў — на ўсё далейшае жыццё. Але не, пасля сканчэння Белдзяржуніверсітэта (1955 г.) Павел Місько разам з жонкай-студэнткай (тая пераводзіцца на завочнае аддзяленне фізмата) вырашае ехаць на працу ў самую глыбінку Палесся, у мясціны, дзе, як лічыў гісторык старажытнасці Герадот, некалі знаходзілася мора. Так і апынуўся ў Давыд-Гарадку на Гарыні, якая і сапраўды кожную вясну разлівалася морам. «Вабілі заходнія вобласці рэспублікі, — тлумачыць пісьменнік тое сваё рашэнне. — Яны былі для мяне «тэра інкогніта». Ён яшчэ не ведае, што Палессе стане для яго шляхам у вялікую літаратуру, месцам дзеяння яго першага рамана.

Аб рабоце над буйным мастацкім творам, вядома ж, марыў. Не ведаў толькі, як гэта адбудзецца. Ды і наогул бязрадасная рэчаіснасць уносіла свае карэктывы ў планы і мроі маладога літаратара. Амаль усе яго сілы адбірала раённая газета, «гэтая малатарня», характарызуе ён раёнку пазней. Матэрыял туды трэба было даваць і даваць. А каб здабыць яго, «трэба было па некалькі разоў на тыдзень ехаць у калгасы — то на веласіпедзе, то на кані... то на матацыкле». «Тады, — заўважае пісьменнік, — я зразумеў выраз — «Кроў з носу, а давай!»

Тым не менш не ўвесь сабраны матэрыял паглынала газета. Частка жыццёвых назіранняў асядала ў блакнотах. Нешта з гэтага ішло затым для кароткіх апавяданняў, у асноўным гумарыстычных, а нешта патрабавала іншай, больш маштабнай формы. Так было з запісамі шматгадзінных гутарак з настаўнікам Цімохам Андрэевічам Ніколенкам, былым камісарам аднаго з атрадаў Пінскага партызанскага злучэння. У газету з тых матэрыялаў пайшла нейкая часцінка — пра разгром народнымі мсціўцамі Хатыніцкага гарнізона. А як распарадзіцца астатнімі запісамі, дзе не менш значнае? Там — лёсы чалавечыя ў перыяд партызанскай вайны на балотных прасторах Палесся, высакароднасць і здрадніцтва, неверагоднасць абставін і суровы побыт партызанства, боль і радасць, лютая жорсткасць і пяшчотнасць чыстага кахання, якое так часта бязлітасна абрывала варожая куля ці выбух міны. Пройдзе, аднак, яшчэ нямала часу, перш чым прататып Ніколенкі пачне ўсё выразней пераплаўляцца пісьменнікам у галоўнага героя рамана — Мікульскага з яго адысеяй у суровым «моры Герадота». Але для гэтага спатрэбіліся і дадатковыя жыццёвыя назіранні, і выпрацоўка ўласнай філасофскай канцэпцыі партызанскай вайны на Палессі.

З Давыд-Гарадка Павел Місько летам 1959 года перабіраецца ў Гродна, уласным карэспандэнтам рэспубліканскай газеты «Звязда». А гэта новыя гарызонты і многія паездкі ўздоўж і ўпоперак па вобласці якраз у часы знакамітай хрушчоўскай «адлігі» і пачатку звароту «халадоў» трохі прыхаванай нова-сталіншчыны. Былі і ціхі адчай ад усемагутнасці нахабнага партчыноўніцтва, і вера маладога камуніста, што ўсё гэта будзе пераможана, што гэта ўсё асобныя, хоць чамусьці надзіва шматлікія хібы Вялікай ідэі сацыяльнага брацтва і справядлівасці.

Ён верыць і веру сваю ўкладае ў творчасць... нават калі гэта не зусім стыкуецца з рэаліямі жыцця. Бо так вучыць адзіна правільная тэорыя сацыялістычнага рэалізму, які загадваў літаратарам углядацца толькі ў далячынь... і абавязкова «светлую». Дзіўная з'ява — гэты наіўна-светлы ідэалізм спакушанага, здаецца, самай суровай рэчаіснасцю юнака. Але ж і ад таго, што ён неаднойчы паспытаў на ўласнай скуры, Павел Місько таксама не схільны адмаўляцца. Прабіцца да ісціны яму няпроста. Каму верыць: уласным назіранням ці ўзброеным «адзіна правільным пралетарскім метадам» рэцэнзентам з Мінска? «Гэта ўжо такі гратэск, якому цяжка нават паверыць», — дае заключэнне на сатырычны твор маладога літаратара адзін з іх. Але адгукаецца і Янка Брыль: «Праўды баяцца толькі слабыя».

А яшчэ былі сустрэчы з Васілём Быкавым, які працаваў тады літкансультантам у «Гродненской правде». Уразілі ягоныя словы: «Пісаць што? Прасцей. У асноўным думаць трэба, выношваць. А вось думаць, браце мой, пры нашых умовах... Няма калі думаць!» І гэта: «Хопіць нам ужо маляваць кулака на хутары з барадою па пояс...»

Хутар у прозе Паўла Місько з'явіцца не скора. Толькі ў рамане «Градабой». І то быццам трохі збоку. Але ўчытваешся — і следам за гэтым словам-панядцем аднекуль з падсвядомасці ўсплываюць іншыя падобныя словы, чапляючыся адно за другое: хутаранін... кулак... батрак... камбед... класавае процістаянне... нехацімец... лішэнец... спецпасяленец... калгаснік... саўгаснік... і — датацыя... стагнацыя... А што далей? Гэта мы цяпер трохі ўяў-

# Па тэрміне службы

(Пачатак на стар. 8—9).

не маглі справіцца з такой масай народу. Не хапала месцаў. Людзі спалі ўпокат на падлозе. У дзіравых брызентавых палатках...

Аднак усё па парадку.

З Ташкента ў воінскую часць нас прывезлі ў крытых брызентам машынах. Мы вельмі доўга сядзелі на сонцы, было горача і млосна. Маладых салдат, гэткіх жа, як і мы, было досыць шмат. Відаць, акрамя самалётаў, якія прыляталі ў Ташкент з «жывым грузам», былі яшчэ і цягнікі, якія ў імя інтэрнацыянальнага абавязку імчаліся па рэйках з шалёнай хуткасцю.

Нарэшце ў нас сабралі дакументы. Нейкі аморфны, заспаны, увесь змяты старшы лейтэнант адвёў групу з некалькіх дзесяткаў чалавек, сярод якіх былі і мы, у казарму. Гэта было гнюснае памяшканне, абсалютна антысанітарнае, непрыгоднае для нармальнага чалавечага існавання. Аднак мы былі салдатамі. Нас можна было пакласці спаць на брудную падлогу, нам нічога не варта было накрыцца шынялём, нам не агідныя былі чалавечыя адходы, якія, з-за няспраўнасці санвузла, выліваліся з туалета ў калідор, напаўняючы яго страшэнным смуродам... У дадатак да ўсяго, нас амаль не кармілі, інакш кажучы, нас, вядома ж, кармілі, але, па-першае, давалі вельмі мала, салдатам заўсёды не хапала; па-другое, вялікая колькасць перасыльных, заходзячы партыямі па дзесяць чалавек кожную хвіліну ў сталовую, адразу ж бегла да сталоў, бо закон быў: хто першы схопіць — той і з'есць. Хапалі, забіралі, кралі не толькі са свайго стала, але і з іншых, суседніх. Многія выходзілі са сталовай з лустай хлеба — гэта было яшчэ добра, што ім дасталося хоць нешта. Некаторыя ж проста са злосцю плявалі на ўсё і выходзілі са сталовай галоднымі.

Першым часам нас, пяць чалавек паўгалодных салдат, ратаваў сухпай, які нам выдалі яшчэ ў старой часці — тушонка, грэчка з мясам і г. д. Потым нешта з гэтых прадуктаў скончылася, нешта ўкралі, і стала тугавата. Непасрэдных начальнікаў у нас не было, ніхто нас не пільнаваў, народу было процьма, і мы сталі ўсё часцей хадзіць самаходам у горад. Грошай было няшмат, але мы эканомілі — куплялі танныя ляпёшкі — лаваш і малако ці сок. Вінаградам нас частавалі ўзбекскія жанчыны, але мы бралі проста так рэдка. Часцей чым-небудзь дапамагалі па гаспадарцы — і нам плацілі тады зусім заслужана. Памятаю, як адной старэнькай рускай жанчыне мы прывалаклі з рынка мех бульбы. Дома яна нам вельмі дзякавала, частавала чаем і арэхамі. Другі раз, на рынку, я папытаў у сярэдніх гадоў узбечкі, колькі каштуе вінаград. Яна назвала вельмі высокую цану, трэба было аддаць усе нашы грошы за сотню-другую грамаў гэтага праклятага вінаграда, і мы адмовіліся, пайшлі далей. Жанчына дагнала нас ужо за паваротам з вялікай гронкай спелых ягад.

— Бярыце, бярыце! — гаварыла яна нам разгублена і совала нам у рукі вінаград. Але мы не ўзялі. Жанчына яшчэ доўга стаяла і глядзела на нас. Можа, і ў яе сын дзе-небудзь служыў? Ці пакуль не служыў, але хутка павінен быў прызывацца, і жанчына маліла бога, каб толькі не ў Афганістан, каб толькі не ў Афганістан... Ніхто не зможа сказаць дакладна, пра што думала тая жанчына-ўзбечка. Скаланулася, пэўна, душа, напаткаўшы худых, брудных салдат — вось і ўсё...

Увогуле, трэба сказаць, напаўгалоднае існаванне нас не надта турбавала. Мы ўспрымалі ўсё гэта спакойна, як належнае і нават нармальнае. Пэўна, занадта маладыя былі. 18 гадоў — узрост складаны, няўстойлівы, зменлівы. Жыццё ў такія гады можа растаптаць. І таптала. Вельмі ж многае ўспрымалася ў той час у ружовых танах, рамантычна. А жыццё крыла рамантыку жорсткімі казырамі: рэальнымі, будзённымі, крывавымі...

Тут мы сутыкнуліся і з чалавечымі адносінамі, якія зусім не былі падобны на чалавечыя адносіны, — з так званым «нестатутнікам». Ён праяўляўся тут пакуль зрэдку па дзвюх прычынах: нас было вельмі шмат, праз гэты перасыльны пункт за той ці іншы месяц праходзілі тысячы. Зарганізаваць такую процьму народу нават з дапамогай нестатутных узаемаадносін было немагчыма: некалькі стараслужачых сяржантаў ды радавых пастаяннага саставу часці грамадзянскай абароны (!), пасланых для ўтаймавання «духаў», што ляцелі ў Афганістан, не ў стане былі што-небудзь зрабіць. Па-другое, сярод саміх маладых салдат, што транспартаваліся ў Афганістан, пазаўстаўныя ўзаемаадносіны асабліва ўсталявацца не маглі, бо не было неабходнага размежавання па тэрмінах службы. Гэта не азначае, што пазастатутніка ў такіх умовах не ўзнікала. Проста ён не паспяваў вырасці, аформіцца, замацавацца, бо гэта была перасылка, а не войскі.

Адзін чачэнец ласкава прапаноўваў мне ўшыць яго штаны. Маё адмаўленне ён не ўспрыняў і ўдарыў кулаком у зубы. Я выцер скрываўлены рот, але рабіць што-небудзь усё роўна не стаў. Побач нікога не было, братаны мае разбрыліся хто куды. Гэта і скарысталі каўказцы. Зразумеўшы, што толку не будзе, яны адпусцілі мяне. Чачэнец, што прыклаўся кулаком да маіх зубоў, быў прыгожы жылісты хлопец. Ён пагражаў мне пасля таго неаднойчы, але біць не біў і здароўкаўся першым. Гэты выпадак быў, вядома, дзіцячым садком у параўнанні з тым, што нас чакала ў Афганістане, нечым накшталт прэлюдыі, уступам да вялікай, пакуль ненапісанай сімфоніі. У Афганістане скараліся ўсе. Хто ў большай ступені, хто ў меншай. Надзея на вяртанне жыла ў душы кожнага, а ўцякаць не было куды. Тыя адчайныя, якія рашаліся на безаглядныя ўцёкі, атрымлівалі не волю, а зняволенне ці кулю сапраўдных духаў. Не мірыліся з дзікімі нормамі жыцця тыя ж каўказцы. Іншая справа, што часта яны выкарыстоўвалі сваю згуртаванасць не з лепшымі мэтамі, затое яны ўсведамлялі сваю культуру, сябе, свае традыцыі. Яны разумелі, што чалавек з роднай зямлі — гэта не тормаз, не вылюдак, не замок, а брат, зямляк, суродзіч. І яны аберагалі гэтага суродзіча, шанавалі, паважалі, аддавалі апошняе. Славяне ж, за рэдкім выключэннем, мала клапаціліся пра землякоў — «зямеляў». Іншы раз маладыя маглі зазнаць ад сваіх жа «суродзічаў» такія здзекі, якіх не зведвалі нават салдаты іншых нацыянальнасцей. Часта земляка, як ні сумна, лупцавалі больш, чым не земляка. Адзінае апраўданне гэтага бачу я ў тым, што дзяржаўная машына дзесяцігоддзямі вельмі добра працавала на ніве блізкароднасных славянскіх народаў. Нацыянальная самасвядомасць і простая самапавага выкошваліся пад корань. Патрэбны гады і гады, каб адрадзіць іх...

Некалькі слоў мне ўсё ж хацелася б сказаць пра тых маіх землякоў, якія сапраўды імі былі. Ува ўсіх адносінах. Гэта: Сяргей Мандрукевіч і Саша Бічык. Пра другога я раскажу пазней, сустрэліся мы з ім у Афганістане. З першым жа ў нас адбылося вось такое дзіўнае знаёмства.

На нас увесь час палявалі, як на дармавую сілу, стараслужачыя мясцовай часці. Аднойчы мы трапілі ў іхнюю пастку. Нас зачынілі ў агромністым, забітым рознымі армейскімі рэчамі складзе. Прапаноўвалася за некалькі гадзін зняволення акуратна злажыць да сцяны зваленае гарой таннае туалетнае мыла. Працавалі доўга, старанна. Добрага паўдня. Мыльны пыл напоўніў затхлае паветра, не было чым дыхаць. Закупораны склад нас душыў, вокан не было, акрамя невялікіх зацэментаваных у сцяну шклоблокаў. Нарэшце мы ўсё зрабілі, нас выпусцілі на волю.

Другі раз мяне і казаха Кайрата прывялі ў каравульнае памяшканне. Патрабавалася чысціня падлогі. Вось тут і з'явіўся ў маім жыцці высокі здаровы хлопец.

— Ну, ты — казах, бачу, — сказаў ён Кайрату. — А ты адкуль?

— З Мінска, — адказаў я.

Мыццё падлогі адразу было адменена. Я аказаўся земляком сапраўднага земляка. Нас пасадзілі за стол. Доўга адкормлівалі, распытвалі, цікавіліся. Мандрукевіч у гэтыя апошнія дні перад адлётам у Афганістан неаднаразова дапамагаў: ён раздабыў мне новую чыстую форму, чаравікі, увесь час падкормліваў, заступаўся, — адным словам, жыццё сяк-так наладзілася, за што я і застаюся ўдзячны гэтаму чалавеку.

На перасылцы нас досыць працяглы час трымалі ў невядомасці, а з ёй жыць было неяк нязручна — чалавек больш любіць пэўнасць. Нам не гаварылі пра дзень вылету. Хадзілі розныя чуткі, адна за другую лепшыя. Нарэшце, нам абвясцілі: заўтра ў пяць раніцы. Стала быццам лягчэй, але невядомасць не знікала: мы ведалі, што ляцім у Афганістан, але што будзе далей, што нас чакае наперадзе, — гэтага мы не ведалі.

Нас прывезлі на аэрадром. Там давялося прасядзець яшчэ некалькі гадзін, пакуль не былі ўладжаны ўсе перададлётныя справы.

Каля самалёта ваенны юрыст забіраў савецкія грошы. Улады не без падстаў баяліся кантрабанды. Здавалі мала і нямногія. Амаль ні ў кога грошай не засталося. Тыя, хто меў ладныя сумы, зусім слушна старанна іх прыхоўвалі, разумеючы, што чорны дзень яшчэ толькі-толькі набірае сілу.

Пачалася пасадка.

І тут тоўсты, увесь нейкі далікатны армянін (не, не той, што ехаў з намі з вучэбкі) рвануўся з трапа.

— Нэт, нэт! Нэ надо! — крычаў ён. — Нэ паеду! Пустытэ мена! Пустытэ!

Ён плакаў, па-сапраўднаму плакаў, наўзрыд. Яму заламалі рукі нейкія людзі і ўпіхнулі ў грамадзянскі самалёт ТУ-154.

Узлёт быў кароткі. Праз некалькі хвілін гожая сцюардэса элегантна, з усмешкай распнутага паведаміла:

— Самалёт набраў вышыню і знаходзіцца на ўзроўні 11 тысяч метраў над зямлёй. Мы перасеклі граніцу Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан.

І зараз жа я пачуў другі голас, майго таварыша:

— Прыкінь, — сказаў ён з блазнаватай усмешкай, — колькі з гэтага самалёта вернецца дадому?

## 1985—1987 гг. Афганістан. Кабул.

Сталіца Афганістана сустрэла нас сухім ветрам, пякельным сонцам і выпаленай жаўтавата-рудой зямлёй. Усё было незвычайна: гарбатыя горы з заснежанымі вяршынямі хрыбтоў, верталёты, што завіслі над гэтымі каменнымі камлыгамі і пускалі ракеты адстрэлаў, бронзавыя непрыветлівыя людзі ў незнаёмай форме без пагонаў.

Нас пастроілі на пасадачнай паласе. Маўчанне скавала нашы душы. Насустрач нам ішоў строй дэмбеляў. З узнагародамі на парадных кіцелях, з заламанымі на патыліцы берэтамі і фуражкамі, з выгнутымі, зіхатлівымі на сонцы спражкамі, — гэтыя хлопцы ішлі ганарыста і ўпэўнена. У іх наперадзе была доўгачаканая сустрэча з радзімай, яны ляцелі дадому. Нас жа толькі-толькі кінулі ў абдымкі чужой зямлі, і аб сустрэчы з домам мы, калі і марылі, дык не раней, чым праз паўтара года. Дэмбелі глядзелі на нас з непрыхаванай цікавасцю і трошкі з пагардай.

Нехта з іх спытаў:

— Ну, як у Саюзе?

Калі адказалі, строй скалыхнуўся радаснымі воклічамі і нейкі дэмбель-рэаліст гукнуў:

— Вешайцеся, «духи»!

Вешацца пакуль ніхто не думаў.

Нас адвялі на чарговую перасылку, якая знаходзілася побач з узлётнай паласой. Уся нейкая нечаканая і па-паходнаму гаманлівая, з фанернымі казармамі-модулямі для пастаяннага саставу і з брызентавымі палаткамі для перасыльных, — яна зрабіла на нас гнятлівае ўражанне.

Зноў пастроіліся. «Купцы», якія прыбылі з розных месц Афганістана, пачалі набіраць салдат. Набор рабіўся як з улікам спецыфікі кадраў, так і без яго. Было мноства выпадкаў, калі салдаты, якія прайшлі курс вучэбкі танкістаў, траплялі ў сувязь, а сувязісты — у артылерыю ці пяхоту...

Тут жа, побач з «купцамі», сноўдаліся стараслужачыя і іх шасцёркі. Адзін з іх падышоў і да майго суседа.

— Лёзы ёсць, братан? — добразычліва спытаў ён.

Лёзы былі. Мой таварыш дастаў з пачка два лёзы і падаў прасіцелю.

— Давай увесь пачак, чада! — сказаў ужо незадаволена стараслужачы. — Яны могуць табе больш не спатрэбіцца, а мне на дэмбель хутка. — Ён вырваў з рук майго таварыша лёзы і пайшоў далей уздоўж строю...

Некалькі слоўцаў пра гэтую фразачку: «мне на дэмбель, а табе...» Выраз гэты адлюстроўваў пэўную філасофію жыцця салдат у Афганістане. Ён вельмі дакладна характарызуе як стараслужачага, які дачакаўся дэмбеля і робіць усё, каб гэты дэмбель ажыццявіўся, ператварыўся не ў бесцялесную мару, а ў рэальнае, адчувальнае, радаснае і жывое; так і маладога салдата, якому пакуль яшчэ дом, радзіма, воля здаюцца амаль нерэальнымі, неажыццявімымі, які толькі асэнсоўвае ўбачанае, «пераварвае» ўсё ў сабе, вырашае, што яму рабіць, як жыць. І тут зноў неабходна напомніць пра тэрмін службы, якім вымяралася ў тых умовах вельмі многае, якім замянялася тое, што замяняць, магчыма, і не варта было.

Быў такі выпадак. Двум салдатам, маладому — «духу» і стараслужачаму — «дзеду», загадалі праверыць кішлак. Адышліся. «Дзед» кажа маладому:

— Далей ідзі адзін і вяртайся. Мне на дэмбель, а табе, калі што, дык...

Малады заўпарціўся: не пайду, і ўсё. Як «дзед» яго ні біў, як ні пагражаў усімі магчымымі жахамі будучага вяртання ў часць, — усё дарэмна, малады ні з месца. Давялося ісці ўдвух — загад ёсць загад. Не дайшоўшы да кішлака, напароліся на засаду. «Дзеда» паранілі. Адстрэльваючыся, ім цудам удалося адарвацца. Малады дапамагаў стараслужачаму, як мог: падтрымліваў, цягнуў на сабе, паіў з біклагі заваранай вярблюдзінай калючкай. «Дзед» ад болю енчыў, прасіў схаваць яго, пакінуць вады і потым прыслаць за ім братаноў альбо прыстрэліць. Тады малады выскаліў зубы. зларадна засмяяўся:

— Ты, гад, мяне ў казарме мучыў — цяпер сам памучайся!

«Дзеду» нічога не засталося рабіць як падпарадкавацца волі салдата, маладшага па тэрміне службы. Малады дацягнуў яго да сваіх. «Дзеда» накіравалі ў шпіталь. Вылечылі. І «дзед» вярнуўся. І пачаў страшэнна здзекавацца са свайго выратавальніка...

Парадаксальна? Толькі на першы погляд. Справа ў тым, што калі чалавеку застаецца да дэмбеля, да гражданкі тры-чатыры месяцы, калі ён ужо яскрава бачыць перад сабой сонца свабоды і ў той жа час над галавой свішчуць кулі, — такі чалавек жыве адной думкай: як выжыць. Дзеля гэтага, дзеля ажыццяўлення гэтай мары ён здольны на многае такое, што не ўкладваецца ў рамкі будзённага мірнага чалавечага жыцця. А калі ўлічыць, што нейкі «дух» — малады ды зялёны — прымусіў «дзеда» спалохацца і ўсумніцца ў рэальнасці яго будучага цывільнага жыцця, тады не пададуцца гэткімі ўжо дзіўнымі здзекі са свайго выратавальніка...

На Кабульскай перасылцы лёс пратрымаў нас нядоўга. Нам не давялося ляцець ні ў Шындант, ні ў Кундуз, ні ў Джалалабад. Тым жа днём па нас прыехалі і завезлі на ўскраіну Кабула, дзе знаходзілася часць, у якой мы і павінны былі знайсці прытулак на доўгія паўтара года. У мяне няма намеру па парадку распавядаць, як нас даставілі ў часць, як сустрэлі стараслужачыя бездапаможных «духаў», як мы настойліва і не без дапамогі шматлікіх настаўнікаў авалодвалі службай, прымушаючы сваю душу ўлівацца ў бурлівую плынь новага калектыву, — усё гэта досыць нудныя прыватнасці. Да таго ж, здаецца, мне ўдалося даволі падрабязна расказаць, як маглі трапіць і як траплялі ў Афганістан нашы салдаты, таму цяпер у мяне трошкі іншая мэта — абагульніць убачанае і спазнанае і сказаць хаця б сотую долю праўды пра Афганістан, пра наша жыццё там. Сказаць проста, без неразумных і непатрэбных усхліпаў-захапленняў, без залішніх сантыментаў. Але спачатку пра тых, хто загінуў, не дацягнуў да дэмбеля, не вярнуўся.

За няпоўныя 1985—1987 гады мы — фельд'егеры Кабульскага вузла, якія, здавалася б, не прымалі ўдзелу ў баявых аперацыях, — страцілі пецярых чалавек.

Першая смерць прыпала на канец чэрвеня 1985 года. У ваколіцах населенага пункта Джабль-Ус-Сарадж загінуў прапаршчык Аляксандр Ламонаў. Пасмяротна прадстаўлены да ордэна. Усё здарылася нечакана. Калона, з якой ён «ішоў» забраць груз на перасылбазе Хайратон, трапіла пад абстрэл. Ламонаў загінуў, як да пэўнага часу было прынята гаварыць, пры выкананні службовага абавязку...

Яго памяці, а таксама памяці ўсіх шафёраў, што служылі ў Афганістане, прысвячаю верш «У рэйдзе»:

Горы. Сонца. Дарожны пясок на зубах.
Пхнем у неба тупыя капоты «КАМАЗаў»,
Бліжай к Богу, туды, дзе балюе алах,
На хрыбты сыпануўшы кубак снежных алмазаў.

Скалы моляцца ўкленчыўшы, нема чытаюць Каран.
Ніц паніклі галовамі — прагна цалуюць дарогу.
Ды жалезныя коні паўзуць на фатальны таран,
Вывяргаючы кроў, і бензін, і трывогу.

Рэйд. Калона. Мы зноўку ідзем на вайну.
А яна, — не ў маленстве, — размалёвана фарбамі пекла.
Я баранку сціскаю, нібыта ганю баразну.
Я — ратай, каго сонцам смаліла і ліўнямі секла.
Я — ратай! Як на плуг, на баранку — ўсім целам!
Потам вочы заліты. Боль далоні мазоліць.
З пашчы вузкай цясніны лаўлю я ад бураў прыцэпы
І, губляючы хлопцаў, заходжуся з болю.

Хайратон! Дазапраўка. Пагрузка — і ў шлях.
Сувязь з роднай зямлёю зноў, здаецца, я страціў.
Колы скатамі мераюць-глушаць мой страх,
Кружыць смерць і жыццё нада мною «афганец»....

Смерць адна не ходзіць — кажуць у народзе. 11 ліпеня таго ж года паблізу горада Кандагар цеплавой ракетай тыпу «зямля — паветра» быў збіты наш самалёт. Загінуў экіпаж, загінулі фельд'егеры — прапаршчык Калейнікаў і радавы Шадэйка. (Не хацеў бы рабіць балюча родным загінуўшых, таму прозвішчы зменены). Абодва пасмяротна прадстаўлены да ордэна Чырвонай Зоркі. Ведаю, што многія перад Шадэйкам, маладым салдатам, засталіся ў неаплатным даўгу. Доўг гэты нельга вярнуць, ён будзе цяжкім праклёнам ляжаць на подлых душах.

Вось што было ноччу перад вылетам на заданне. Перадаю словы Сашу Бічыку, майму земляку, аднапрызыўніку Шадэйкі:

— Ты ж ведаеш, якія «льготы» меў «дух», які лятаў. Яго рэдка чапалі. Ён карыстаўся своеасаблівай павагай сярод старaслужачых. Яны «добразычліва» патрабавалі прывезці што-небудзь з Саюза, пераслаць што-небудзь дадому... Шадэйка, вядома, іх улагоджваў. А перад яго апошнім вылетам «дзядам», напэўна, нешта не спадабалася. Можа, для надзейнасці хацелі прыпалохаць. Бо малады, калі яго перыядычна апрацоўваць, будзе цягнуць службу яшчэ лепш, з большай руплівасцю. А галоўнае, запалоханы, прывязе з Саюза лепшую пайку, чым незапалоханы. Пастараецца выканаць што-небудзь больш важкае, больш небяспечнае заданне, абы ад яго ў рэшце рэшт адчапіліся... Як бы там ні было, але ноччу, пасля адбою, паднялі ўвесь прызыў «духаў». Пастроілі і білі. Канцэртам кіравалі дэмбелі Камок, Ваня, Лукша. Усе, абкураныя гераінам, яны вельмі метадычна выбівалі «дурноцце» са стрыжаных галоў маладых. І тут нехта з «дзядоў» заўважыў: у страі няма Шадэйкі. А ён амаль ніколі не строіўся з усімі. Яму гэта дазвалялася. Але на гэты раз нешта, відаць, замкнула ў сасудах дэмбельскага мозгу, таму што са словамі «*Ен жа прыпух*, недавярак! Строіцца, тормаз!» яны кінуліся на яго. Білі нагамі, рукамі... Назаўтра ён паляцеў па крузе: Шындант, Баграм, Кандагар. Павінен быў ляцець у Саюз... Але яго збілі, не даляцеў. Я пра гэта даведаўся, калі вярнуўся ў часць. Зайшоў у дзяжурку — там Лукша на рацыі. Маленькі, крываногі, увесь збялелы, сентыментальна так кажа:

— Ай, які хлопец! Які хлопец!

Смерць Шадэйкі, перадсмяротны лёс яго прымусілі мяне задумацца пра чалавека. Раней я разглядваў чалавека праз прызму свайго жыцця, сваіх учынкаў. Я праецыраваў рух сваёй трывожнай, разгубленай душы на душы іншых. Аднойчы я зразумеў, што чалавек двуадзіны. Гэта выклікала ў маёй душы віхуру страшэнных пачуццяў. Мне здалося, што я зазірнуў туды, куды зазіраць *не трэба было. Аднак мяне спалохала не* гэта. Мяне спалохала тое, што я, убачыўшы нечалавечае, брыдкае, не спалохаўся. Я зразумеў, што магу сам рабіць гэта, бо я чалавек,— вось што мяне ўразіла, што кроіла маю думку. Я бачыў чалавека подлым, нізкім, жорсткім— і страчваў яго, ставіў на ім крыж. Потым знаходзіў у гэтым жа чалавеку дабрыню, шчырасць, мужнасць — і чалавек для мяне ўваскрасаў, перада мной ужо не стаяла пытанне, якое мучыла героя Дастаеўскага: жывёліна баязлівая чалавек ці Напалеон. Жыццё здолела парадаксальна злучыць у чалавеку і бога, і д'ябла, і я зміры́ўся з гэтым. Я стварыў тэорыю канфлікту, якая мела на ўвазе два

А. КРЫВАНОС. Кабул. 1987 год.

якае ўспрыманне свету, калі адна асоба ўжо можа несці ў сабе адмоўныя і станоўчыя пачаткі, калі гэтыя пачаткі знаходзяцца ў заўсёднай супярэчнасці адно аднаму, калі яны ўзаемадзейнічаюць і, нягледзячы на сваю парадаксальнасць, узаемаабагачаюцца.

Калі ў свеце няма антысвету — няма жыцця. Цэлае нараджаецца з двух супрацьлегласцей і памірае ў супрацьлегласці.

Жыццё ёсць вялікі дар, але і вялікае няшчасце. Адно ніколі не можа ўзвысіцца або перамагчы другое. Шалі вагаў на адным узроўні. І нават, калі адны падаюць уніз, яны, дасягнуўшы ніжэйшай адзнакі, падымаюць тым самым другія.

Жыццё не можа спрыяць гармоніі чалавека, *але гэта не азначае, што* сам чалавек і само жыццё толькі дысгарманічныя. Сэнс жыцця ў яго гармоніі і дысгармоніі...

Такія думкі ўзнікалі і ўзнікаюць, калі я думаю пра чалавека ў Афганістане. Вось толькі яны не суцяшаюць, жыццё паўнейшае і больш складанае за ўсе разам узятыя тэорыі. Яно заўсёды пакідае за сабой таямніцу апошняга слова...

А памяці радавога Шадэйкі я прысвяціў верш «Маналог загінуўшага»:

Збудзіўшы ў сэрцы варажнечы рост,
*Мяне* распнулі на чужой зямлі,
Прыгваздаваўшы мой мяцежны лёс
Цвікамі да таемнае вайны...

Але — жыццё! У тым яго й краса,
Што мая думка не памрэ ўва мне
І што мая распнутая душа
У іншым слове праўдай ажыве!

Цяпер пра Звягінцава, прапаршчыка...

Я ўсё часцей і часцей думаю пра лёс гэтага чалавека. З аднаго боку — жартаўнік, весялун, надзелены жывым розумам, талентам вуснага слова, спагадлівая душа, з другога — грэшнік, здольны прыгожа схлусіць, падмануць, паступіць так, як загадвае бязмежна шырокая душа...

Я, як зараз, памятаю нашы «вяртанні з калоны», як ён тармазіў сваю замыкаючую машыну ля дукана, як забягаў у магазін і вяртаўся задаволены, з усмешкай і з некалькімі бутэлькамі рускай гарэлкі...

Памятаю, як нехта ў яго прысутнасці пад час прагляду фільма па тэлевізары брудна выказаўся пра каханне, пра жаночую вернасць. Як ён абурыўся! Як вызверыўся на таго небараку! Звягінцаў крычаў, што сапраўднае каханне—цуд, вялікі дар, які даецца чалавеку богам.

— Вы ў сапраўдным каханні ні чарта не шарыце! — падвёў ён рысу.

(Шарыць — азначала там, у нас,— разумець, разбірацца).

Па яго расказах у каравулцы мы ведалі, што ён разведзены, але ў яго ёсць *жанчына* ў Ташкенце. Каханая жанчына...

Вясной-летам 87-га года ён быў вінен афіцэрам нашай часці паўтары тысячы чэкаў. У лістападзе таго ж года Звягінцаў павінен быў замяніцца. Аддаць даўгі, відаць, не было ніякай магчымасці. Вылецеўшы на аперацыю, у часць ён не вярнуўся — застрэліўся...

І пра апошнюю смерць — радавога Мяндэлы, «чарпака» па тэрміне службы (так звалі салдата, які адслужыў год). Бессэнсоўнай і страшнай была яго гібель.

Мяндэла быў майстрам татуіроўкі — гэтага своеасаблівага кляйма, якое ставілі *сабе салдаты ў Афганістане па* дзвюх прычынах. Першая — калолася група крыві, рэзус-фактар — была жыццёвая, практычная, якая быццам бы магла ў небяспечны момант засцерагчы ад смерці. Другая — «эстэтычная»: многія ў наколках бачылі нейкае ўпрыгожанне мужчынскага цела.

Група крыві, на жаль, не выратавала гэтага вясёлага прыгожага сібірака. Ён выехаў з камандзірам у штаб, там сустрэў свайго земляка, з якім і вырашыў праехацца на «уазіку» за межы Амінаўскага палаца. Папераджальны стрэл вартавога яго не спыніў. Другая куля трапіла ў галаву...

Я не адкрываю нічога новага, калі скажу, што смерць мае дзве іпастасі — фізічную і духоўную. Яна нібы двуаблічны Янус, які глядзіць на свет чарнотай сваіх двайных вачніц.

Калі я ўспамінаю пра Афганістан, пра загінуўшых хлопцаў, думаю пра тое, што было і чаго магло не быць, да мяне прыходзіць думка, што смерць фізічная — гэта, безумоўна, жорстка і жахліва ў адносінах да васемнаццаці-дваццацігадовых хлапчукоў, але не менш, а, магчыма, і больш страшная — смерць духоўная. Гісторыя пра тое, як духоўна паміраў чалавек у Афганістане,— гісторыя трагічная, іншы раз нават геранчна-трагічная. Што гэтаму спрыяла? Наркотыкі, усеагульная азлобленасць, туга па радзіме і многае такое, што належыць чалавеку, як кажуць, ад бога (ці, можа, ад д'ябла?). У духоўных мерцвякоў ператварыліся, вядома, не ўсе, але многія. Асабліва хацеў бы ўспомніць пра старaслужачых маёй часці Ваню і Камка, пра якіх я ўжо згадваў вышэй. Пішу пра іх не таму, што яны былі горшыя ці лепшыя за іншых дэмбеляў, а толькі таму, што хачу на іх прыкладзе расказаць пра такую з'яву ў Афганістане, як дзедаўшчына.

Ваня — маленькага росту, бялявы, з пшанічнымі вусамі землячок — быў заўсёды пануры, незадаволены, злосны чалавечак, у якога зусім адсутнічала пачуццё зямляцтва і звычайнага чалавечага ўзаемаразумення. Неяк ён пачаў вечарамі плесці з кабельнага каляровага дроту нешта накшталт упрыгожання. З такой стараннасцю працаваў чалавек, што, здавалася, гэта галоўная і першачарговая задача яго жыцця, задача, якую ён абавязкова, у што б там ні стала, чаго б яму гэта ні каштавала, павінен выканаць. Стараўся чалавек, адбіраў сам у сябе каштоўны час, натруджваў рукі, мазгі і нервы і сплёў... бізун. Прыгожы, тугі. Пачаў біць ім нас, маладых. Асалоду ў гэтым знаходзіў, ці што? Шчасце свайго дзікунскага існавання? Задавальненне ад болю ахвяры?

Сяржант Камкоў (альбо Камок) — знешне здаровы каржакаваты чалавек з запалымі ў чарнату шырокіх вачніц мутнымі вачамі (ад бесперапыннага ўжывання наркотыкаў), — таксама не выклікаў чалавечай павагі. Душа яго, здавалася, загінула даўно і толькі ненажэрная плоць вымагала задавальнення парушаных фізіялагічных патрэб. Гераін цалкам задавальняў яго скалечаны арганізм, але, акрамя самога наркотыка, патрэбны былі яшчэ і запалкі, звычайныя запалкі, якія на гражданцы можна было купіць свабодна і ў любой кольвасці. А восенню 85-га з імі ў Афганістане было цяжкавата. І менавіта Камок — дэмбель, узнагароджаны медалём «За баявыя заслугі», чалавек, які *служыў да пэўнага часу ў адным з баявых* палкоў 40-ой арміі і пераведзены пасля ранення да нас, у фельд'егерскую сувязь, — менавіта Камок прымушаў «духаў» з дапамогай кулакоў і ботаў «нараджаць» запалкі. Потым, выставіўшы шырокую сетку шухера, ён зачыняўся разам з іншымі аматарамі гераіна ў капцёрцы і пачыналася абкурванне, якое канчалася зноў жа застройваннем маладых, біццём і здзекамі з іх. Аднак горш за ўсё было тое, што маладыя пад націскам дэмбеляў пераймалі вопыт старaслужачых, а страх перад бясконцымі здзекамі і пабоямі прымушаў прывыкаць да наркотыкаў. І вось ужо новыя «чарпакі», «дзяды» і дэмбелі прымаліся апрацоўваць новых «духаў», а апошнія вывучалі, запаміналі і працягвалі неафіцыйныя традыцыі. Так і круцілася ўсё па крузе, і Молах паспяваў засмактаць і загубіць не толькі целы, але і душы. Быў ва ўсім гэтым, вядома, і элемент маральнага канфлікту, калі чалавеку прапаноўвалася зрабіць выбар, і ён, змучаны армейскім побытам, выбіраў не тое, што было бліжэй яго душэўнаму складу, а тое, што патрабаваў ад яго калектыў, а дакладней старaслужачыя. Проста дзіву даешся, якімі вытанчанымі могуць быць людзі, калі трэба падпарадкаваць сваёй волі сабе падобных! Строяць, напрыклад, дэмбелі новых маладых, толькі-толькі дастаўленых з самалёта, насупраць старых вопытных «духаў». Кажуць:

— Дачакаліся вы свайго — вось вам замена! Толькі навучыць іх трэба... Наперад!

Стаяць новыя маладыя, нічога не разумеюць, а старыя, усё зразумеўшы, робяць выгляд няўцямны — не хочацца ім выхоўваць кулакамі сатаварышаў, бо яшчэ такія свежыя асабістыя ўспаміны... Тады старaслужачыя быццам начыста забываюцца на новенькіх і працягваюць прыгнятаць вопытных «духаў». Вопытныя, натуральна, абураюцца: колькі ж можна трываць? А ім «чарпакі» ў адказ:

— Вы ў нас да дэмбеля ў ярме будзеце — пакуль маладыя не зашараць!

Што застаецца рабіць старым «духам»? Падганяемыя страхам за сваё нутро, пачынаюць яны біць і здзекавацца з маладых салдат, чапляючыся з усіх сіл за неафіцыйную пасаду «чарпака».

Вось і мой любы азербайджанец, мой залатазубы Аглы, той самы, які пачынаў служыць са мной яшчэ ў вучэбцы, не ўтрымаўся ад спакусы зрабіць сваё жыццё спакойным за кошт другога. Ён так хутка спазнаў службу, так рашуча адназначна зразумеў сэнс чалавечага існавання, што па загаду «дзядоў» абавязкова жадаў расшыць Сашу Бічыка, майго земляка. Як недарэчна выконваць чужую волю, бязглуздую прыхамаць! Як подла прыніжаць іншага чалавека толькі за тое, што ён з цяжкай ступенню жаўтухі паміраў у шпіталі, у той час як усе, чорт вазьмі, цягнулі службу!

У мяне не была адбіта памяць. Я добра памятаў адну ноч, калі адзін з кесараў казармы вучыў мяне жыццю. Толькі Бічык — адзіны з маіх землякоў-бульбашоў — падняўся тады з ложка і сказаў:

— Што, адзін «дух» павінен за ўсіх адграбаць?..

Мяне больш не кранулі, адпусцілі з *разбітымі губамі.*

Я гэта добра памятаў. Магчыма, таму і сказаў пры выпадку Аглы:

— Калі будуць патрабаваць расшыць Біча — не рабі гэтага!

Не думаю, што мае словы нейкім чынам паўплывалі на яго. Бічык і сам унушаў павагу. Яго баяліся чапаць.

Пазней Бічык расказаў мне гісторыю аднаго салдата, з якім ён ляжаў у шпіталі. *Ён выкалупліваў братану дробныя* асколкі з-пад скуры на спіне — не ўсе змаглі выняць і хірургі.

*Салдат гэты нарадзіўся ў сарочцы.* Неяк ноччу ён вылез з палаткі, сеў да яе спіной і стаў падшываць кучу дзедаўскіх фланак — салдацкіх куртак. Эрэс (рэактыўны снарад) з нервовым віскам ударыў у паходную казарму. Ён цудам застаўся жывы. Вось толькі спіну асколкі скрэмзалі і знявечылі. Так зрэдку пазастатутныя адносіны ратавалі маладых салдат. А колькі з іх загінула праз гэтыя самыя нечалавечыя адносіны! Іншы ж раз даходзіла да таго, што старaслужачыя пасылалі маладых па вінаград у зялёнку, а потым знаходзілі іх без вушэй, рук, з выкалатымі вачамі... Ці вось прыклад. Старaслужачы сяржант знайшоў у свайго падначаленага — узбека па нацыянальнасці — кішэнны Каран. На вячэрняй паверцы сяржант вывеў маладога са строю, растлумачыў асабістаму саставу шкоду рэлігіі і прымусіў узбека з'есці кніжачку з догмамі. Пад раніцу маладога салдата ў казарме не было. Праз нейкі час па звестках разведкі ён ваяваў на баку адной з маджахедскіх груповак. Бязлітасны быў да сваіх...

У нас з казармы збеглі ў розны час двое. Удалося іх вылавіць. Адправілі ў іншую часць, што зусім незразумела: навошта? дзеля чаго? Афіцэрам, па распараджэнні якіх у казармах развешваліся плакаты «Глумленне і здзекі — самыя цяжкія воінскія злачынствы!», трэба было спачатку разабрацца, знайсці вінаватых. А так маладых сплавілі, сляды замялі, пагаварылі, папалохалі — і ўсё шыта-крыта.

З суседняй часці збеглі двое. Ноччу, з пастоў, скінуўшы бронежылеты, адкруціўшы ад АК прыклады (каб лягчэй было). Шукаў іх увесь Кабульскі гарнізон, у тым ліку і мы. Пад час пошукаў двое салдат падарваліся на мінах... Праз два тыдні ўцекачоў знайшлі. Вялікія дзядзькі з буйнымі зоркамі распачалі паказальны суд. Уцекачоў вывелі на пляц пад канвоем са звязанымі ззаду рукамі. Вартых жалю, няголеных, нямытых. Без зялёных зорак на брудных панамах. Іх так настойліва асуджалі, не разабраўшыся ў заблытаных, разгубленых душах, не высветліўшы асноўных прычын, што было страшна глядзець на гэтых раскормленых штабных нелюдзяў...

І ўсё ж я далёкі ад думкі, што начальства зусім махнула на нас рукой. Але я таксама не хачу і не магу перакласці ўсю віну на плечы салдат. Рыба гніе з галавы. Многім афіцэрам былі выгадны пазастатутныя адносіны ў «прыстойнай форме», без асабліва жорсткіх праяў, — так было лягчэй. Калектыў самарэгуляваўся, а начальнікі павінны былі толькі зрэдку накіроўваць яго ў патрэбнае рэчышча. Не выйшла. Страшэнны бардак атрымаўся. Злыя эмоцыі людзей знеслі ўсе плаціны і ўтрымаць бурную раку было ўжо немагчыма.

Спытаюць: чаму ж маладыя салдаты не скардзіліся? Па многіх прычынах. Заміналі, скажам, мужчынскі гонар, ідыёцкія традыцыі, страх перад будучыняй. Стукачоў жа не паважалі не толькі свае аднапрызыўнікі, навучаныя і нацкаваныя «дзядамі», але і афіцэрскі састаў—сведкі нікому не былі патрэбны...

Прадбачу яшчэ пытанне: што ж, так кепска ўсё было ў Афганістане? Што адказаць? Я пішу не прыгодніцкае апавяданне. Пішу толькі тое, што бачыў і ведаю пэўна. Мяне абурае вобраз гэткага «афганца» — супермэна, якога пастараліся стварыць у нашым друку і нават у грэшнай літаратуры XX стагоддзя. А вясёлае, добрае, сумленнае, вядома ж, было, ды не яно, на жаль, вызначала нашы армейскія будні. І не яно, як гэта ні сумна, кіравала нашымі лёсамі... З лёсамі ж нашымі, з сэрцамі праз гады робіцца нешта дзіўнае. Ірвуцца яны некуды, мітусяцца, пакутуюць. Можа, праўды шукаюць? Праўда ж, кажуць, гарады бярэ.

Вось і з маёй душой штосьці не тое. Усё больш хочацца мне апошнім часам сустрэць самага жорсткага, азлобленага і самага шчаслівага, уладкаванага і прыгрэтага чалавека, з якімі давялося служыць. Спытаў бы іх: чаму ж мы такімі сталі? Хто ў гэтым вінаваты?..

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне намесніку старшыні СП Беларусі Анатолю Жалязоўскаму з выпадку заўчаснай смерці БРАТА МІКАЛАЯ.**

**Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смутку́е з прычыны трагічнай смерці пісьменніка КАЛІНКОВІЧА Мікалая Мікалаевіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

# «Помнікі Айчыны»

У Палацы мастацтваў — выстаўка «Помнікі Айчыны». На ёй экспануюцца творы мастакоў Беларусі і Расійскай Федэрацыі на гісторыка-культурную тэматыку. На афішы выстаўкі пазначана, што яна была прымеркавана да Дзён славянскага пісьменства і культуры. Экспазіцыя дае магчымасць пабачыць, што яднае мастакоў дзвюх рэспублік, а гэта найперш — усведамленне глыбіні крызісу ў культуры і грамадска-палітычным жыцці братніх народаў. Хоць рускім і не пагражае, як беларусам, страта роднай мовы ці раскол нацыі па прынцыпе рэлігійным (на «рускіх»-праваслаўных і «палякаў»-каталікоў) і рэгіянальным (на беларусаў і «яцвягаў») — у іх таксама праблем досыць. Тыя ж апаганеныя, зруйнаваныя святыні (часты зварот да вобраза Храма Хрыста-Збавіцеля), занепад духоўнасці. Тая ж мара аб Адраджэнні.

Для расійскіх мастакоў гісторыка-культурнага напрамку ўласціва імкненне да канкрэтнага, дакладнага адлюстравання вобразаў слаўных людзей Расіі, падзей нацыянальнай гісторыі, помнікаў дойлідства. У нас у такім стылі сёння плённа працуюць Я. Кулік, М. Купава, У. Басалыга. А ў адносна масавым маштабе гэта было характэрна для беларускага мастацтва недзе ў сярэдзіне 70-х гадоў.

Мне падалося, што беларускія мастакі сёння ідуць іншым шляхам, чым іх расійскія калегі. Нам болей уласціва метафарычнасць мыслення, наша мастацкая сістэма, хоць і мае ў аснове рэалізм, разам з тым лёгка ўспрымае і адаптуе нерэалістычныя плыні. У Расіі падобныя кантакты даюцца цяжэй.

Хацеў бы звярнуць увагу на адну акалічнасць, што кінулася мне ў вочы на гэтай выстаўцы. Зрэшты, афіша, этыкетка, каталог—гэта дробязі, але... Выстаўку ладзяць на парытэтных асновах дзве рэспублікі. І гэты парытэт павінен прысутнічаць ва ўсім. Таму і пытаюся, чаму на афішы першымі пералічаны арганізатары выстаўкі з боку РСФСР (Міністэрства, Саюз мастакоў), а потым — з боку Беларусі. І ў беларускім, і ў рускім алфавіце літара «Б» стаіць папераддзе «Р». У дадзеным выпадку мэтазгоднай была б алфавітная паслядоўнасць. Чаму афішы і этыкеткі на творах толькі на рускай мове? Чаму на афішы выстаўкі толькі маскоўскі Крэмль — сімвал Расіі і няма ніякай выявы, якая б сімвалізавала Беларусь? Думаю, калі б Расія ладзіла агульную імпрэзу з Літвою ці Грузіяй, такія «дробязі» былі б улічаны.

**В. БОГУШ.**



В. СУМАРАЎ. «Зацменне».



У. ТОЎСЦІК. «Фрагменты абыякавасці».



В. АЛЬШЭЎСКІ. «Рэстаўрацыя».

# Што могуць бібліёграфы?

Свята славянскага пісьменства і культуры, што адбылося сёлета на зямлі нашай рэспублікі, сталася асаблівым для тых, хто мае непасрэдныя адносіны да кнігі — для бібліятэкараў.

Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна ў межах Свята правяла навукова-практычную канферэнцыю «Беларуская бібліяграфія — частка нацыянальнай культуры», у якой прынялі ўдзел усе бібліяграфічныя цэнтры рэспублікі. На канферэнцыі было шмат гасцей — з Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна, нацыянальных бібліятэк РСФСР, УССР, МССР, славянскіх краін. Удзельнікі канферэнцыі абмеркавалі шэраг надзённых пытанняў беларускай бібліяграфіі, ля вытокаў якой стаялі вядомыя вучоныя і дзеячы культуры Я. Карскі, У. Пічэта, М. Нікольскі, З. Жылуновіч (Цішка Гартны).

Бібліёграфамі галоўнай бібліятэкі рэспублікі зроблена нямала, што садзейнічала развіццю нацыянальнай культуры: зводны каталог «Кніга Беларусі. 1517—1917 гг.», «Бібліяграфія па гісторыі Беларусі. Феадалізм і капіталізм», Бібліяграфія мастацкай літаратуры і літаратуразнаўства» і г. д. Да Свята зроблены два значныя па сваіх культурных каштоўнасцях выданні — «Адкрыццё Скарыны» і «Станаўленне і развіццё рэжысуры ў беларускіх драматычных тэатрах (1841—1970 гг.)».

Бібліяграфічнае забеспячэнне іншых галін ведаў ажыццяўляюць галіновыя рэспубліканскія бібліятэкі. Паспяховае развіццё ўсіх напрамкаў грунтуецца на дзяржаўнай рэгістрацыі друкаванай прадукцыі рэспублікі, што выконвае Дзяржаўная кніжная палата БССР.

Перад бібліёграфамі БССР былі пастаўлены задачы: садзейнічаць абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці народа, развіццю беларускай мовы, разгарнуць улік рукапісных і друкаваных помнікаў гісторыі і культуры Беларусі.

Паспяховаму выкананню гэтых і іншых задач бібліёграфам Беларусі перашкаджае беднасць матэрыяльна-тэхнічнай базы сучаснага сусветнага ўзроўню, няразвітасць спонсарства ў падтрымку бібліяграфічнай справы, адсутнасць беларускага бібліяграфічнага таварыства.

Удзельнікі канферэнцыі прынялі зварот да бібліёграфаў рэспублікі.

**І. ПРЫЛІШЧ.**




**З 6 ПА 12 ЧЭРВЕНЯ**

6 чэрвеня. 19.30

**У СТАРОНЦЫ МАЁЙ ЛЮБІМАЙ**

Да 150-годдзя з дня нараджэння Ф. Багушэвіча.

Перадача здымалася ў вёсках Свірань, Жупраны і ў горадзе Вільнюсе ў час святкавання юбілею беларускага асветніка.

7 чэрвеня. 21.15

**ЛІРА**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

Чарговы выпуск прысвечаны Сакрату Яновічу — беларускаму пісьменніку, які жыве ў Польшчы.

8 чэрвеня. 22.15

**НАШЫ ГОСЦІ**

Данецкі абласны музычна-драматычны тэатр імя Арцёма.

Гутарку з рэжысёрам Ю. Качавенкам вядзе спецыяльны карэспандэнт БТ М. Гарэцкая. Гледачы ўбачаць урыўкі са спектакляў «Зойчына кватэра», «Лаліта», «Дача Сталіна» і іншых.

11 чэрвеня. 11.15

**РОЗДУМ**

Пейзажы старога Мінска.

12 чэрвеня. 13.50

**МАЛАДОСЦЬ МАЯ НЕЗАБЫЎНАЯ**

Успамінае Рыгор Няхай.

12 чэрвеня. 19.20

**«НАПАЛЕОН ОРДА»**

Прэм'ера дакументальнага фільма БТ.

Стужка знаёміць з некаторымі работамі мастака, кампазітара, асветніка. Аўтар сцэнарыя Л. Пракопчык, рэжысёр Л. Гедравічус, аператар У. Гур'ян.

12 чэрвеня. 22.20

**ЗАПРАШАЕМ НА ВЯЧОРКІ**

Фальклорныя ансамблі вёсак Халхоліца і Лаўніца Барысаўскага раёна пакажуць, як праходзіла чэрвеньная талака, праспяваюць песні нашых продкаў.

## У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Паважаныя сябры! У артыкуле К. Ядвігі "Грунвальд—580", які быў змешчаны на 3-й старонцы вашай газеты ад 20 ліпеня 1990 года, дапушчана недакладнасць. У артыкуле сказана: "Дзённую імшу служыў у Чырвоным касцёле ксёндз Ян Матусевіч". Мушу зазначыць, што я браў удзел у канцэлебраванай святой імшы, прысвечанай Грунвальдскай перамозе. Імшу правёў у Кальварыйскім касцёле па-беларуску біскуп Тадэвуш Кандрусевіч. А ў Чырвоным касцёле я ў той дзень не быў і ніякіх службаў там не праводзіў.

З ушанаваннем
ксёндз Ян Матусевіч.

27 ліпеня 1990 г.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**Літаратура і Мастацтва**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62.



Галоўны рэдактар Анатоль ВЯРЦІНСКІ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Уладзімір ГІЛЕП, Мікола ГІЛЬ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Андрэй ГАНЧАРОЎ.